Пролетары! усіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ [1 (27) - 2]

СТУДЗЕНЬ 1935 г.

[М]ЕНСК — 193[5]

# Пастанова

## Совета Народных Камісараў БССР

*26 снежня 1934 г.* *г. Менск.*

### Аб гадавых справаздачах за 1934 г.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 5/XII-34 г., № 267.. „Аб гадавых справаздачах на 1934 г.“, Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для аб'яднанняў, трэстаў і арганізацый рэспубліканскага значэння наступныя гранічныя тэрміны прадстаўлення гадавых справаздач за 1934 г. у адпаведныя народныя камісарыяты, Наркамфіну БССР і Кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота:

| | |
|---|---|
| а) для трэстаў і арганізацый цяжкай і лёгкай прамысловасці . . . | 15 лютага 1935 г. |
| б) для трэстаў харчовай прамысловасці (апроч Белсадвінпрома) . . . | 20 лютага 1935 г. |
| в) для Белсадвінпрома . . . | 25 лютага 1935 г. |
| г) для Белдзяржбуда . . . . | 1 сакавіка 1935 г. |
| д) для Белдзяржкіно . . . . | 15 лютага 1935 г. |
| е) зводная па ОРС'ах НК Мясцовай прамысловасці . . . . | 1 сакавіка 1935 г. |
| ж) для трэстаў і арганізацый НК Камунальнай гаспадаркі. . . . | 25 лютага 1935 г. |
| з) для трэстаў і арганізацый НКЗ . | 1 сакавіка 1935 г. |
| і) для Белдзяржтранса . . . | 20 лютага 1935 г. |
| к) зводная па сістэме Белкаапсаюза і прамкааперацыі . . . . | 15 сакавіка 1935 г. |
| л) для дзяржаўных гандлёва-збытавых арганізацый . . . . . | 10 лютага 1935 г. |

2. Абавязаць ведамствы і наркаматы, якім падпарадкаваны пераліčаныя у арт. 1-м гэтай пастановы трэсты і арганізацыі, у межах вызначаных гранічных тэрмінаў у 3-х дзенны тэрмін устанавіць і давесці да кожнага трэста і арганізацыі дыферэнцыраваныя тэрміны прадстаўлення балансаў і справаздач за

1934 г. з такім разлікам, каб забяспечыць складанне у вызначаны ўрадам СССР тэрмін зводных справаздач па наркаматам.

3. Устанавіць наступныя тэрміны прадстаўлення гадавых справаздач у НКФ БССР народнымі камісарыятамі і цэнтральнымі ўстановамі аб выкананні дзяржаўнага бюджэта за 1934 г.

а) Сакратарыят ЦВК, Кіраўніцтва Спраў СНК, НК Фінансаў, Кіраўніцтва Дома Урада, Упаўнаважаны НК Леса, Галоўдортранс, НК Комунальнай гаспадаркі і Бел. Акадэміі Навук—10 лютага 1935 г.

б) Дзяржплан, НК Мясцовай прамысловасці, НК Унутранага гандлю, НКСабез, НК Юстыцыі, НК Аховы здароў'я, Упаўн. НК Соўгасаў, НКЗем і НК Асветы—25 лютага 1935 г.

4. Устанавіць наступныя гранічныя тэрміны прадстаўлення гадавых справаздач Гар (рай) камгасам і гар(рай)фа комунальнымі прадпрыемствамі, жыллёвай кааперацыяй і нізавой мясцовай прамысловасцю:

| | |
|---|---|
| а) па комунальных прадпрыемствах . | 20 лютага 35 г. |
| б) па нізавой мясц. прамысловасці і раймельтрэстам . . . . | 15 лютага 35 г. |
| в) па сістэме жыллёвай кааперацыі . | 1 сакавіка 35 г. |

5. Арцелі сампрамкааперацыі, Райсаюзы, Сельпо, ЦРК, ЗРК і ОРС'ы прадстаўляюць балансы і справаздачы адпаведна Райгарфа да 10 лютага 1935 г.

6. Абавязаць старшынь горсоветаў і РВК заслухаць на паседжаннях горсоветаў і райвыканкомаў вынікі правядзення балансавай кампаніі 1934 г., намеціўшы рад канкрэтных мерапрыемстваў па ўзмацненню фінбюджэтнай дысцыпліны і фінансавым аздараўленні падпарадкаваных прадпрыемстваў і арганізацый.

7. Прапанаваць НК Земляробства БССР арганізаваць работу па складанню гадавых справаздач у калгасах з тым, каб справаздачы былі складзены і зацверджаны на агульных сходах калгаснікаў не пазней 15-га студзеня 1935 г.

Ускласці персанальную адказнасць за своечасовае і правільнае складанне гадавых справаздач у калгасах, абслугоўваемых МТС, на дырэктараў МТС, а ў калгасах, не абслугоўваемых МТС, на загадчыкаў Райза.

8. Забараніць мабілізацыю на іншыя работы учотных работнікаў ведамстваў, гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў, занятых складаннем гадавых справаздач, а таксама прадстаўленне чарговых адпускоў начальнікам сектароў учота і справаздачнасці і галоўным бухгалтарам да сканчэння работы па складанню гадавых справаздач.

9. Абавязаць кіраўнікоў ведамстваў, арганізацый, і прадпрыемстваў забяспечыць учотны апарат на час складання

гадавых справаздач дастатковай колькасцю работнікаў, пры чым, калі не будзе хапаць такіх, рабіць у межах устаноўленага штата перакідку на гэту работу работнікаў іншых частак апарата.

10. Дазволіць у выпадку неабходнасці акордную аплату работ па складанню гадавых справаздач.

11. Прапанаваць усім ведамствам і дзяржаўным арганізацыям вылучыць спецыяльныя фонды для прэміравання лепшых учотных работнікаў за датэрміновыя прадстаўленні і высокую якасць гадавых справаздач.

12. Абавязаць дырэктароў прамысловых прадпрыемстваў, соўгасаў і МТС да прадстаўлення гадавой справаздачы за 1934 г. у вышэйстаячыя органы абгаварыць яе на агульным сходзе рабочых.

13. Абавязаць КНГУ і ведамствы БССР неадкладна забяспечыць давядзенне бланкаў форм гадавой справаздачы за 1934 г. і інструкцыі да іх да прадпрыемстваў, пабудоў, соўгасаў і калгасаў.

14. Адказнасць за своечасовае прадстаўленне гадавых справаздач ускласці на кіраўнікоў ведамств, арганізацый і прадпрыемстваў, а таксама на кіраўнікоўо рганаў учота і справаздачнасці і галоўных бухгалтараў.

15. Абавязаць НК Фінансаў вынікі балансавай кампаніі 1934 г. не пазней 1-га мая 1935 г. даслаць СНК з канкрэтнымі прапановамі, якія вынікаюць з разгляду гадавых балансавых справаздач.

Нам. Старшыні Совета
Народных Камісараў БССР *Саакян*

Кіраўнік Спраў Совета
Народных Камісараў БССР *С. Шабалтас.*

---

## Загад № 14

### Па кіраўніцтву Наргасучота БССР

*ад 10/I 1935 г.*

Па атрыманым па тэлефону 10-га студзеня звесткам заўчасна скончаўся інспектар Наргасучота Брагінскага раёна т. Белахвосцік.

Тав. Белахвосцік быў адным з лепшых інспектароў народнагаспадарчага учота, актыўным работнікам Брагінскай партыйнай арганізацыі. Не гледзячы на доўгую і цяжкую хваробу т. Белахвосцік да апошніх дзён не пакідаў працы і скончаўся

пры выкананні важнейшага задання партыі і ўраду—студзеньскага перапіса жывёлы.

Загадваю—сям'і памёршага т. Белахвосціка выдаць адначасовую дапамогу ў суме месячнага заробка.

Начальнік кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

## Усім раённым і участковым інспектарам Наргасучота БССР

Не гледзячы на тое, што яшчэ ў снежні месяцы 1934 г. былі разасланы ўсім раёнам пагаспадарчыя кнігі первічнага ўчота ў сельсоветах, да гэтага часу паасобныя раёны не праінструктавалі сакратароў сельсоветаў і не перадалі ім памянёных кніг.

Прапаную тым інспектарам, якія гэтага не правялі, безадкладна перадаць сельсоветам пагаспадарчыя кнігі і аб выніках паведаміць Учотную інспекцыю.

Адначасова паведамляю, што кніжкі сельупаўнаважаных. журналы ўчота сельгаскампаній і інструкцыі первічнага ўчота друкуюцца і будуць дасланы ў раёны ў канцы студзеня.

Вам неабходна будзе прасачыць за тым, каб Райза і Райфа па атрыманні гэтых кніг і форм зараз-жа перадавалі сельсоветам.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі*

---

## Загад № 20

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 15-га студзеня 1935 г.*

1. Праверка хода ўчота жывёлы па Валасоўскаму с/с, Парыцкага раёна ўстанавіла, што рэгістратар Драпеза замест правядзення работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК КП(б)Б і СНК і згодна інструкцыі Кіраўніцтва Наргасучота—шляхам агляду налічча жывёлы ў натуры, прымяніў метад апроса і перадаверыў правесці ўчот жывёлы свайму бацьку.

2. Участковы інспектар т. Хорт, які абавязан пільна сачыць за правідловым правядзеннем перапісу жывёлы, не толькі не прыняў належных мер для выпраўлення грубых парушэнняў у ўчоце жывёлы, а нават укрываў правадзімы Драпезам няверны ўчот, чым садзейнічаў у далейшым парушэнні пры ўчоце жывёлы.

На падставе вышэйпаказанага загадваю:

а) За нядбайныя адносіны да сваіх абавязкаў і злачыннае ўкрывацельства вытвараных парушэнняў у ўчоце жывёлы, участковага інспектара Наргасучота т. Хорта з работы зняць.

б) Прыняць да ведама, што пастановай прэзідыума Парыцкага РВК ад 9/I 1935 г. справа на тт. Хорта і Драпеза перадана Пракурору для прыцягнення іх да адказнасці.

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі.*

---

## Загад № 24

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 19-га студзеня 1935 г.*

З мэтай сістэматызацыі ўсіх учотных матэрыялаў па раёну і для лепшага абслугоўвання раённых арганізацый сістэматычнымі звесткамі аб ходзе выканання народна-гаспадарчага плана па раёну, у выкананне загада нам. нач. ЦУНХУ т. Краваля ад 9/I 1935 г. абавязваю:

1. Раённых інспектароў Наргасучота весці ў 1935 г., пачыная з 1-га студзеня сшыткі „асноўныя паказчыкі выканання народна-гаспадарчага плана раёна“.

2. Усіх работнікаў КНГУ, выязджаючых па розным пытанням у раён, правяраць акуратна вядзенне райінспектарамі гэтага сшытка, лічачы гэту работу, як адну з важнейшых у справе ўпарадкавання ўчотных матэрыялаў раёна і абслугоўвання імі раённых арганізацый.

3. Райінспектароў Наргасучота складаць штомесячна выпіскі з сшытку аб выкананні плана па раёну за прашоўшы месяц і прадстаўляць у якасці кан‘юнктурных аглядаў сакратару райкома партыі і старшыні РВК.

4. Агульнае кіраванне і інструктаж райінспектароў ускладаецца на сектар зводна-бягучай статыстыкі і Ўчотную Інспекцыю.

Нам. начальніка КНГУ БССР *Кацнельсон.*

---

## Загад № 27

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота БССР

*ад 19/I 1935 г.*

§ 1.

Праверкай устаноўлена, што некаторыя райінспектуры Наргасучота пры правядзенні кантрольна-спісачнага ўчота школ усенавуча на 1/I 1935 г. замест сапраўднага кантроля спісаў

складзеных РайАНА і складання непасрэдна інспектурай НГУ зводкі на падставе лагічнага і арыфметычна выверанага спіса РайАНА пусцілі гэту справу на самацёк; спісаў РайАНА не выверылі, а абмежаваліся выключна прысылкай зводкі у Кіраўніцтва, фармальна штампуючы заведама няправільныя звесткі РайАНА.

§ 2.

За грубейшае парушэнне оргплана правядзення кантрольна-спісачнага учота школ усенавуча і прамых указанняў сектара учота культуры і быта, сляпое штампаванне ведамственнага учотнага матэрыяла інспектарам райінспектур — Прапойскага, р-ну т. Высоцкаму, Полацкага р-на т. Мізараву, Мсціслаўскага р-на т. Белову абвяшчаю суровую вымову з занясеннем у працоўны спіс.

§ 3.

Папярэджваю ўсіх работнікаў райінспектур Наргасучота, што іх асноўнай задачай з'яўляецца барацьба за дакладную лічбу і ўсякая спроба адхілення ад гэтага пацягне за сабой самае жорсткае спагнанне ўключна да адстранення ад работы з забаронай працаваць у сістэме Кіраўніцтва Наргасучота і аддачы пад суд.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР

*Владзімірскі*

---

## Заслаўскаму пракурору т. Улезламу

Копія: **Наргасучоту**

Ваша думка аб тым, што для прыцягнення да крымінальнай адказнасці за парушэнне правіл учота неабходна папярэдняе дысцыплінарнае пакаранне з'яўляецца няправільнай, так як такіх установак па гэтаму пытанню наш закон не ведае і зусім зразумела, што гэта (папярэдняе непрыцягненне да дысцыпл. адказнасці) не можа з'яўляцца матывам для застаўлення матэрыяла без рэагавання.

На вас, як на пракурора, ускладзен абавязак па ахове соц. законнасці, у тым ліку і закона аб учоце і Вы павінны забяспечыць яго захаванне ў Заслаўскім раёне, ужываючы належныя меры, у тым ліку і меры судовага ўздзейнічання, канечна не ствараючы масавых працэсаў.

А таму прапануецца прыняць рашучыя законныя меры да спынення фактаў парушэння гэтага закона ў Заслаўскім раёне.

Пракурор сект. адм. культ. буд-ва пракуратуры Рэспублікі. *Топаз*

## II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ.

### Супроць штампавання, за дакладную лічбу

„Папярэджваю ўсіх работнікаў райінспектур Наргасучота, што іх асноўнай задачай з'яўляецца барацьба за дакладную лічбу і ўсякая спроба адхілення ад гэтага пацягне за сабой самае жорсткае спагнанне ўключна да адстранення ад работы з забаронай працаваць у сістэме Кіраўніцтва Наргасучота і аддачы пад суд", (загад па кіраўніцтву ад 16/I 1935 г.).

Чым выклікана столь суровае папярэджанне? Выключна безадказнымі адносінамі некаторых работнікаў райінспектур і ў першую чаргу рада інспектароў.

Кантрольна-спісачны ўчот школ усенавуча на 1/I-35 г. з'яўляецца работай сістэмы Кіраўніцтва і мае мэтай праверкі ведамственнага учота.

Значэнне і задача гэтага ўчота былі зусім ясна ўказаны ў лісце райінспектарам пры пастаноўцы гэтага учота. Здавалася, што райінспектуры павінны былі з асаблівай увагай, з пэўнай крытычнасцю падыйсці да спіскаў, прадстаўляемых ім РайАНА,

Падвергнуць гэты матэрыял крытыцы не толькі з боку арыфметычнага, але таксама і лагічнага. Толькі пасля ўсебаковай крытыкі спіскаў райАНА—інспектура мела права прыступіць да складання зводкі і адсылкі ў Кіраўніцтва.

Што-ж аказалася на справе?

Рад інспектур (Прапойск, Полацк, Мсціслаўль, Рагачоў, Петрыкаў і інш.) абмежавалі сваю ролю выключна роляй перадатачнага пункта. Не палічылі патрэбным праверыць, што яны пасылаюць у Кіраўніцтва.

Магілеўская інспектура яшчэ больш аблегчыла сваю работу, перадаўшы ўсе функцыі па кантрольна-спісачнаму учоту, уключна да адпраўкі матэрыялаў, у Кіраўніцтва РайАНА.

У рэзультаце гэтых безабразій атрымалася, што ў сектары прышлося па сутнасці правесці зноў усю работу—за інспектуры.

Проста незразумела, як магло здарыцца, што такія работнікі, як т. Белугін (Рэчыца), Мізараў (Полацк), т. Шметар (Віцебск) перасталі ладзіць з арыфметыкай.

Правяраючы зводкі нават па гэтых раёнах, мы прымушаны былі выпраўляць проста арыфметычныя памылкі.

Калі па матэрыялам некаторых інспектур мы прымушаны былі і мелі магчымасць выпраўляць памылкі, дык па матэрыялам рада інспектур мы былі пазбаўлены гэтай магчымасці таму, што ўся зводка прадстаўляла сабой абсурд.

Прапойская, Полацкая, Мсціслаўская, Рагачоўская і некаторыя іншыя інспектуры не пацікавіліся хаця-бы бегла праверыць прадстаўлены ім РайАНА матэрыял і даслалі ў Кіраўніцтва заведама падтасаваныя лічбы. Як інакш, як не сляпое штампаванне і падтасоўкай лічбаў кваліфікаваць такія дзеянні?

Гэта здарылася таму, што некаторыя таварышы з райінспектур лічаць яшчэ да гэтага часу, што ўчот культурнага будаўніцтва—гэта другарадная работа і таму „слопаюць што дадзім“.

Выбачайце! **Учот культурнага будаўніцтва з'яўляецца адным з адказнейшых участкаў соцыялістычнага ўчота і сваевольнічаць і „іграць у цыфіркі“ мы нікому не дазволім.**

Аб гэтым з усей катэгарычнасцю сведчыць загад па Кіраўніцтву аб кантрольна-спісачным учоце школ усенавуча на 1/I-35 г.

*С. Шындлер*

---

## Указанні аб парадку збірання і прадстаўлення матэрыялаў натуральнага руху насельніцтва на 1935 г.

Роля і абавязкі раённага інспектара Наргасучота ў адносіне збірання і распрацоўкі матэрыялаў натуральнага руху насельніцтва з 1935 года значна мяняецца. Існуючая сістэма да 1935 года цалкам зменена, а іменна—збіраннем матэрыялаў сістэма Наргасучота не займаецца, аднак, гэта не знімае абавязкі інспектуры ў адносіне паўнаты ўчота і якасці запаўнення картак актаў грамадзянскага становішча. Інспектар абавязан перыядычна па ўзгадненню з раённым аддзелам Наркамата Унутраных спраў правяраць пастаноўку ўчота і інструктаваць сакратароў сельсоветаў у адносіне правільнасці запаўнення картак.

Новы парадак перадачы другіх экземпляраў ЗАГС органам НКУС уводзіцца з 1-га лютага 1935 года.

Парадак прадстаўлення штомесячных матэрыялаў і зводак наступны:

1. Раённыя аддзелы НКУС атрымоўваюць штомесячна ад сельсоветаў і Горзагсаў другія экземпляры актаў грамадзянскага становішча і ўрачэбныя пасведчанні аб смерці пры опісі другіх экземпляраў актаў.

2. Складаюць штомесячную ведамасць рэгістрацыі актаў грамадзянскага становішча і не пазней 10-га числа кожнага месяца наступнага за справаздачным адсылаюць яе разам з другімі экзеплярамі ў НКУС БССР. Копію гэтай ведамасці ў гэты самы тэрмін перадаюць раённаму інспектару Наргасучота, які пасля праверкі іх і перанясення данных ведамасці ў „дneўнікі“ для рэгістрацыі паступаючага матэрыяла адсылае атрыманую ведамасць у КНГУ БССР. Па „днеўніках“ у канцы года у інспектурах будзе праводзіцца распрацоўка па прадугледжанай ЦУНХУ форме.

Забеспячэннем кнігамі ЗАГС-аў займаюцца органы НКУС.

*Смарадзінская.*

---

## Указанні аб парадку збірання і распрацоўкі матэрыялаў механічнага руху насельніцтва за 1935 год

З 1935 года збіранне і распрацоўка матар‘яла мэханічнага руху насельніцтва ўводзіцца ва ўсіх гарадах і гарадскіх паселішчах, а таксама і сельскіх мясцовасцях пашпартызаваных раёнаў.

Асноўнай задачай райінспектуры ў рабоце па механічнаму руху насельніцтва з‘яўляецца своечасовае збіранне матэрыяла і кантроль паўнаты і якасці яго. Па атрыманні адрыўных талонаў у інспектуры звяраецца перш за ўсё колькасць атрыманых картак з колькасцю паказанай у адносіне міліцыі, якая абавязкова павінна быць прыкладзена да матэрыяла, які паступае ад міліцыі. Пасля гэтага праводзіцца дэталёвы суцэльны кантроль правільнасці запаўнення картак, асаблівая ўвага павінна быць звернута на правільнасць і паўнату запаўнення пунктаў 5,5-а і 6, бо рэгістрацыя ў гэтай часці адраснага лістка найбольш дэфектна. Карткі, якія могуць быць выпраўлены шляхам запросаў аддзяленняў міліцыі без затрымкі тэрмінаў адсылкі матар‘ялаў у КНГУ, абавязкова павінны быць выпраўлены. Пасля праверкі павінны быць раскладзены па месцу, адкуль прыбыў з горада альбо вёскі, падлічаны і ўнесены у ф. „А“. Катэгорыя „взрослых“ атрымоўваецца шляхам падліка адрыўных талонаў, катэгорыя дзяцей да 16 год—шляхам падліка асоб, адзначаных на адвароце адрыўнога талона.

Звесткі па ф. „А“ даюцца інспектурай па кожнаму гарадскому пункту, а ў раёнах, дзе сельскія мясцовасці пашпартызаваны, акрамя горада, таксама па сельскіх мясцовасцях (сумарна па раёну).

Форма „А“ запаўняецца ў адным экземпляры, які адсылаюцца ў КНГУ разам з матар‘ялам не пазней 5-га числа наступнага за справаздачным месяцам. У інспектуры застаецца

„карта ўчета передвижения населения“, якая запаўняецца кожны месяц з ф. „А“.

„Карта учета передвижения“ уключае ўсе асноўныя звесткі аб размерах і складзе перасоўваючагася насельніцтва па гарадах, яна служыць для ўсялякага рода даведак, таксама і для больш лёгкага кантролю матэрыяла.

Аб усіх прабелах у якасці і паўнаце рэгістрацыі неабходна неадкладна давадзіць да ведама адпаведнага аддзялення міліцыі, а ў тым выпадку, калі аддзяленні міліцыі, па ўказанням рай-інспектара, не прымаюць адпаведных мер, належыць паведаміць аб гэтым КНГУ.

---

## Абследванне работы прамысловасці за 1934 год

Органы сістэмы Наргасучота і ўчотныя ячэйкі наркаматаў і ведамстваў прыступілі да важнейшай работы ў галіне прамысловага ўчота і статыстыкі—да абследвання работы прамысловасці за 1934 год.

Матэрыялы па гадавому абследванню работы прамысловасці маюць вельмі вялікую каштоўнасць для планавых і апаратыўных мэт. Яны з'яўляюцца асноўнай крыніцай, забяспечваючай магчымасць праверкі і ўсебаковага вывучэння таго, як прамысловасцю выкананы пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы.

Праграма гадавога абследвання прамысловасці за 1934 г. значна адрозніваецца ад мінулых гадоў, як па кругу ахопліваемых прадпрыемстваў (значна пашыран), так і па кругу і якасці тых звестак, якія будуць сабраны пры правядзенні гэтай работы.

Абследваннем за 1934 г. будуць ахоплены прадпрыемствы прамысловых наркаматаў—НКЦП, НКЛегпр., НКЛеспр., НКХарчпр., НКМП, КомЗагот СНК, НКШЗ, НКВод; кіно-прамысловасць. Прадпрыемствы гэтых наркаматаў адчытваюцца аб сваёй рабоце па формам гадавых адчотаў. Яшчэ ў мінулым годзе ЦУНХУ СССР былі распрацаваны і зацверджаны адзіныя формы гадавога адчота для ўсіх промнаркаматаў. Гэтыя-ж формы з невялікімі карэктывамі застаюцца і ў гэтым годзе.

Апрача прамысловасці промнаркаматаў па абследванню падлягаюць і ўся астатняя цэнзавая прамысловасць, у чым-бы падпарадкаванні яна не знаходзілася. Гэта астатняя цэнзавая прамысловасць абследуецца па спецыяльнаму статыстычнаму бланку „Ц“ (узамен існаваўшага ў мінулыя гады бланка „В“). Такім чынам уся цэнзавая прамысловасць будзе ахоплена абследваннем.

Гэта мае вельмі важнае значэнне таму, што круг цэнзавай прамысловасці, апрэдзяляемы фармальнымі прызнакамі цэнза, не залежыць ад арганізацыйных змен у кіраўніцтве прамысло-

васці, ліквідацыі, альбо ўзнікнення наркаматаў ці ведамств, а залежыць ад роста, альбо разгортвання самаго прадпрыемства. Цэнзавая прамысловасць і пры падвядзенні ітогаў другога пяцігадовага плана з'явіцца тым асноўным кругам, рост і структурныя змены якога будуць нам характарызаваць развіццё прамысловасці ў цэлым і выкананне ею задач, пастаўленых другім пяцігадовым планам.

Пагэтаму задача органаў Наргасучота дабіцца абсалютна поўнага ахопа абследваннем усіх цэнзавых прадпрыемстваў.

Абследваннем цэнзавай прамысловасці работа ў гэтым годзе не абмяжоўваецца. Будзе яшчэ праведзена абследванне ўсей прамысловасці Райвыканкомаў і Горсоветаў, незалежна ад размераў і абследванне прамысловасці, вытвараючай мінеральныя будаўнічыя матэрыялы і абследванне работы электрастанцыі і ўчасткаў чыгунак.

Патрэбнасць у сталых дадзеных аб рабоце, структуры і становішча прамысловасці РВК і Горсоветаў даўно наспела. Асабліва гэтыя матэрыялы патрэбны цяпер, у сувязі з тымі задачамі, якія пастаўлены XVII партз'ездам перад мясцовай прамысловасцю, а таксама ў сувязі з арганізацыяй НКМестпромаў, якія павінны заняцца гэтай прамысловасцю. Абследванне гэтай прамысловасці будзе праведзена па таму-ж бланку „Ц“, па якому абследуецца цэнзавая прамысловасць. Мукамольная прамысловасць РВК і Горсоветаў будзе абследвана па спецыяльнаму бланку „М“.

Прамысловасць, вытвараючая мінеральныя будаўнічыя матэрыялы, падляжыць абследванню абсалютна ўся, незалежна ад размераў прадпрыемства і незалежна ад таго ці прадназначаны выпрацоўваемыя будматэрыялы для ўласнага карыстання, ці для отпуска на бок. Аналагічнае абследванне прамысловасці вытвараючай мінеральныя будматэрыялы, было зроблена за 1932 г. і дало вельмі каштоўны матэрыял, на падставе якога СНК БССР быў прынят рад мерапрыемстваў. Абследванне прамысловасці будматэрыялаў будзе праводзіцца таксама па таму-ж спецыяльнаму статыстычнаму бланку „Ц“, што і абследванне цэнзавай прамысловасці.

Работа электрастанцый будзе абследвана па спецыяльнаму статыстычнаму бланку „Э“, чыгуначныя майстэрні, дэпо, участкі абследуюцца па спецыяльнаму бланку „Ж“.

Ва ўсей рабоце па гадавому абследванню бярэцца ўпор на якасць матэрыялаў і на тэрміны. Партыя і ўрад ставяць перад учотнымі органамі цвёрдую задачу даць к канцу першага квартала разгорнутую характарыстыку работы прамысловасці за мінулы год. Ніякага практычнага, аператыўнага значэння не мае матэрыял аб ітогах гадавой работы прамысловасці, які даецца праз паўгода, як гэта мела месца ў мінулыя гады.

Закончыць-жа, як гадавую адчотную кампанію па прамысловасці промнаркаматаў, так і абследванне астатняй прамысловасці ў такія тэрміны, каб к канцу першага квартала 1935 года мець асноўныя ітогі работы за мінулы год, безумоўна можна. Неабходна толькі правільна арганізаваць работу, устанавіць адстаючыя прадпрыемствы, своечасова арганізаваць ім дапамогу.

Вялікая ўвага адводзіцца ў абследванні работы прамысловасці за 1934 год паказчыкам па натурпрадукцыі. Да гэтага года, як правіла, кожны завод паказваў свае галоўнейшыя вырабы па прадукцыі, дзякуючы чаму зачастую вырабы вельмі важныя з пункту погляду ўсяе народнае гаспадаркі не паказваліся заводам, так як вытвараліся на гэтым заводзе ў нязначнай колькасці. Вынікам такой сістэмы ўчота было тое, што органы Наргасучота не мелі магчымасці поўнасцю падлічыць некаторыя вырабы прамысловасці, маючыя для нашай народнай гаспадаркі важнае значэнне. У гэтым годзе, як па гадавым адчотам, так і пры абследванні па спецыяльным бланкам натура павінна паказвацца абавязкова тая, якая пералічана ў спускаемых заводам „номенклатурах гатовых вырабаў і полуфабрыкатаў“ і толькі звыш гэтага заводы маюць права паказваць і астатнія галоўнейшыя вырабы. Такі парадак дасць магчымасць сапраўды поўнасцю падлічыць важнейшыя для нашай народнай гасп-кі вырабы прамысловасці.

Работа па абследванню прамысловасці за 1934 г. на прадпрыемствах наркаматаў, прадстаўляючы гадавыя адчоты, павінна быць скончана і адчот прадстаўлен КНГУ БССР і НКФ БССР не пазней 10-га лютага 1935 г. Прадпрыемствы, запаўняючыя спецыяльныя статыстычныя бланкі, прадстаўляюць іх к 1-му лютага 1935 г. у інспектуры Наргасучота, а інспектура пасля кантроля павінна ўвесь матэрыял накіраваць у КНГУ БССР к 15-му лютага.

Абследванне прамысловасці промнаркаматаў арганізоўваецца КНГУ непасрэдна праз наркаматы і трэсты. Абследванне астатняй цэнзавай прам-ці, прам-ці РВК, электрастанцый, прам-ці мінер. будматэрыялаў арганізуецца і праводзіцца райінспектурамі Наргасучота.

Першая стадыя работы і вельмі адказная стадыя—устанаўленне кругам усіх прадпрыемстваў, падлягаючых абследванню, складанне спісаў гэтых прадпрыемстваў праведзены значнай часткай райінспектур нездавальняюча. Неабходна ўвесь час абследвання займацца выяўленнем падлягаючых абследванню прадпрыемстваў.

Прадпрыемствы наркаматаў, прадстаўляючыя гадавыя адчоты фармулярамі, інструкцыямі і наменклатурамі вырабаў ужо забяспечаны даўно і для іх круг паказчыкаў, даваемых па гадавым справаздачам, зусім ясен. Для астатніх прадпрыемстваў,

абследуемых па бланку „Ц“ „М“ „Ж“ „Э“, фармуляры інструкцыі, ўказанні, і наменклатуры вырабаў спушчаны райінспектурам Наргасучота Інспектуры Наргасучота павінны прапрацаваць увесь спушчаны матэрыял, пасля чаго праінструктаваць усе прадпрыемствы, падлягаючыя абследванню. Інструктаж усіх прадпрыемстваў абавязковы для таго, каб павысіць якасць матэрыялаў.

К абследванню прамысловасці павінны быць прыцягнуты ўсе ўчастковыя інспектары. Райінспектар павінен дасканала прапрацаваць увесь матэрыял па абследванню прамысловасці з участковымі інспектарамі, раздаць ім спісы падлягаючых абследванню прадпрыемствам і даць канкрэтны каляндарны план, калі ўчастковы інспектар павінен забяспечыць паступленне матэрыялаў па свайму ўчастку, пры чым, участковы інспектар таксама павінен па кожнаму прадпрыемству забяспечыць паўнату і якасць дадзеных па бланкам.

Паступаючыя ў райінспектуру запоўненыя бланкі падвяргаюцца кантролю, як з боку паўнаты запаўнення, так і правільнасці звестак. Пры кантролі неабходна запоўненыя бланкі супастаўляць з бланкамі рэгістрацыі прамысловасці соцсектара за 1933 г. і аб усіх буйных разыходжаннях па асноўным фондам, персаналу і валавой прадукцыі высвятляць прычыну і даваць тлумачэнне на бланках, альбо ў далучаемых да бланкаў тлумачальных запісках.

Разгортваннем соцспаборніцтва паміж паасобнымі раёнамі і участк. інспектарамі даб'ёмся своечасовага сканчэння работы і высокай якасці матэрыялаў.

*Мохарт.*

---

## Учот электрастанцый

Адначасова з гадавым абследваннем дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў за 1934 г. праводзіцца і абследванне работы ўсіх электрастанцый. На гэты ўчот патрэбна звярнуць асаблівую ўвагу. Учот эл. станцый мае вельмі актуальнае значэнне ў сучасны момант, так як апошні характарызуе становішча электрыфікацыі народнай гасп-кі БССР.

Адным з вялікіх недахопаў учота энергетыкі мінулых гадоў з'яўлялася тое, што мы мала зварочвалі ўвагу на ўчот дробных эл. станцый, вынікам чаго шэраг аб'ектаў былі не ахоплены ўчотам. Гэтым самым мы не маглі даць поўны малюнак разгортвання электрыфікацыі нашай краіны.

Гадавое абследванне, праводзімае ў 1935 г., ставіць сваей мэтай улічыць усе электрастанцыі незалежна ад іх магутнасці, што дасць нам магчымасць падыйсці к 100% ахопу ўсіх эл. станцый па рэспубліцы.

Усе эл. станцыі, незалежна ад іх магутнасці, павінны быць абследаваны альбо па спецыяльнаму бланку „Э“, альбо па формам № 13—14 гадавых адчотаў (па тым заводам, якія запаўняюць гадавыя адчоты).

Інспектурам неабходна ў гэтым годзе ахапіць учотам абсалютна ўсе эл. станцыі незалежна ад іх падпарадкаванасці і іх месцазнаходжаня (пры кіно, тэатрах, соўгасах, калгасах, на чыгунках і г. д.). Трэба адзначыць, што нашы інспектуры зусім слаба выяўляюць электрастанцыі ў сваіх раёнах, што выявілася пры кантролі складзеных імі спісаў па абследванню прамысловасці за 1934 г.

Райінспектуры павінны звярнуць увагу на якасць дасылаемага матэрыяла. Правільна запоўненая бланка „Э“ дасць вельмі каштоўны матэрыял аб дзейнасці эл. станцый. Мы атрымаем дадзеныя аб магутнасці ўсіх электрагенератараў (дынамо-машын), першапачатковых рухавікоў, асноўныя фонды эл. станцыі, лік персанала і валавую прадукцыю ў натуры і цэнавым выразе.

Пры праверцы бланка „Э“ райінспектурам неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на раздзел VII „баланс электраэнергіі“, дабіцца правільнага ўчота выпрацоўваемай эл. энергіі (гр. 1), а таксама паказаць, якім галінам народнай гасп-кі эл. энергія адпушчаецца (графы 6—14).

Пры кантролі раздзела VII бланка „Э“ трэба мець на ўвазе, што выдатак эл. энергіі на ўласныя патрэбы станцыі не можа перавышаць 3—6% ад выпрацоўваемай эл. энергіі, а страты ў сеці для завадскіх 4—7%, а для станцый агульнага карыстання (раённыя, камунальныя) 8—10% ад выпрацоўваемай эл. энергіі.

У выніку абследвання, мы ўпершыню ў БССР будзем мець поўны баланс эл. энергіі, у асаблівасці водпуск эл. энергіі паасобным галінам народнай гаспадаркі. Мы зможам правесці правільную групіроўку эл. станцый па катэгорыям, як па назначэнню, так і па спажываемаму паліву.

Пасля абследвання эл. станцый за 1934 г. КНГУ БССР намечана складанне пашпарта на кожную эл. станцыю з мэтай сістэматычнага назірання за развіццём і работай эл. станцый.

Бланк „Э“ для абследвання райінспектурам спушчаны, інструкцыйныя ўказанні надрукаваны на саміх бланках.

Круг падлягаючых учоту электрастанцый па большасці раёнаў устаноўлен.

Райінспектурам неабходна дабіцца добраякаснага і своечасовага сканчэння гэтай работы ў тэрмін, вызначаны прамсектарам КНГУ БССР.

*Варатынскі.*

## Нач. Рэспубліканск. абл. (краевых) КНГУ

У пачатку 1935 г. ЦКНГУ будзе праводзіцца гадавое абследванне работ прамысловасці за 1934 г., якое ахопіць усю буйн. прамысловасць саюза, усе прадпрыемствы РВК і горсоветаў і ўсе прадпрыемствы па вырабу буд. матэрыялаў. Адчотная кампанія па прадпрыемствам НКЦП, НКЛП, НКЛеса, НКХарчпрома, НКМясцпрома, Кам. Заг. СНК, ГУФКП, НКШЗ, НарКамвода, НКСувязі, НКВнешторга, на аснове гадавых адчотаў прадпрыемстваў (па асноўнай дзейнасці) будзе праводзіцца непасрэдна обл. (рэспубл.) КНГУ.

Што датычыцца астатніх прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці, прадпрыемстваў РВК і горсоветаў і прадпрыемстваў па вырабу буд. матэрыялаў, дык гэта частка прадпрыемстваў будуць абследваны пры ўдзеле інспектароў НГУ.

У студзені 1935 г. ЦКНГУ будзе праводзіцца перапісь жывёлы, якая з'явіцца асноўнай работай райінспектуры ў пачатку 1935 г. Але-ж ЦКНГУ не можа адлажыць і гадавое абследванне прамысловасці, так як толькі вынікі гэтай работы дадуць магчымасць устанавіць ступень выканання плана другога году другой пяцігодкі па прамысловасці. Пагэтаму неабходна каардзініраваць правядзенне абоіх указаных работ—перапісу жывёлы і гадавое абследванне прамысловасці—такім чынам, каб райінспектар сумеў абследваць тыя нямногія прадпрыемствы (з ліку падлягаючых абследванню), якія знаходзяцца ў яго раёне, без усякай затрымкі, выкарыстоўваючы для гэтай мэты спецыяльна інструктарскі апарат пры промсектарах абл. (рэсп.) КНГУ, арганізуемы на час гадавога абследвання прамысловасці.

Арганізаваць правядзенне абоіх указаных работ без усякай памехі для кожнай, магчыма, паколькі райінспектару і ўчастковаму інспектару ў сельскіх мясцовасцях прыдзецца абследваць на працягу месячнага тэрміну ў сярэдніх 3—4 прадпрыемствы.

Тое значэнне, якое мае гадавое абследванне прамысловасці, застаўляе з большай увагай аднесціся к правядзенню ўказанай работы,—к выкананню ў вызначаны тэрмін яе сканчэння і якасці матэрыялаў.

З асаблівай увагай трэба дабівацца знішчэння ў абследванні ўсякага недаўчота, так як кожнае прапушчанае пры абследванні прадпрыемства зніжае адчотныя даныя па супастаўленні з паказальнікам устаноўленым другім пяцігадовым планам.

ЦКНГУ склікае 10-га снежня гг. спецыяльную нараду па прамысловай статыстыцы, на якой будзе абгаваран оргплан абследвання. Падрабязныя інструкцыі аб падрыхтоўчых работах к абследванню даны промсектарам ЦКНГУ. Неабходна дабіцца

правільнай арганізацыі работ на мясцах, абласных КНГУ і ў раёне, для таго, каб абследванне было закончана без усякага спазнення і дало-б поўныя вынікі—без усякага недаўчота—добрай якасці.

Нам. Нач. ЦКНГУ Дзяржплану СССР
*І. Краваль.*

---

## Тэлеграма Нам. Нач. ЦУНХУ СССР т. Краваля па гадавому абследванню прамысловасці

*Ад 15/XII 1934 г.* *№ 8772*

У віду вялікага значэння гадавога абследвання прамысловасці падвядзення вынікаў другога году другой пяцігодкі ў другі раз прапаную: прыняць рэальныя меры к забеспячэнню данай работы ўдзелам райінспектуры.

Лічу зусім недапушчальным адкладванне абследвання прамысловасці ў звязку з перапісам жывёлы.

Катэгарычна забараняю, пад Вашу адказнасць, знімаць начальнікаў і асноўных супрацаўнікоў промсектара на іншыя работы. Каляндарны план абследвання прамысловасці дашліце 1-га студзеня.

Саюзнаргасучот *Краваль.*

---

БССР
Кір-ва Наргасучота
25/XII 1934 г.
№ 2/33

## Усім інспектарам Наргасучота

Органы Наргасучота прыступілі да правядзення гадавога абследвання работы прамысловасці за 1934 г., якое ахапляе ўсю цэнзавую прамысловасць, а таксама прам-ць РВК і прам-ць па вырабу мінер. будматэрыялаў.

Калі абследванне прам-ці промнаркаматаў праводзіцца непасрэдна КНГУ БССР, то абследванне астатняй цэнзавай, райвыканкомаўскай і прамыс. мінеральных будматэрыялаў праводзіцца райінспектурамі.

Тэрміны гадавога абследвання прам-ці ў гэтым годзе Урадам даны вельмі зжатыя, менавіта:—абследванне павінна быць скончана на працягу студзеня м-ца 1935 г. Увесь матэрыял па цэнзавай, райвыканкомаўскай і пра-ці мінеральных будматэрыялаў павінен быць сцягнут у райінспектуру к 10-му лютага.

У студзені м-цы 1935 г. нашы органы праводзяць важнейшую работу—перапіс жывёлы. У сувязі з гэтым некаторымі райінспектарамі недаацэньваецца работа па гадавому абследванню прам-ці. Між тым, гэта работа мае надзвычайна важнае значэнне, як

работа, даючая магчымасць падвесці вынікі выканання плана другога году другой пяцігодкі.

ЦУНХУ СССР цыркулярам ад 26-га лістапада 1934 г. за № 18/50 за подпісам т. Краваля (быў агалошан на нарадзе райінспектароў у пачатку снежня) і тэлеграфным распараджэннем ад 25/XII за № 8772 прапанавала так кардзініраваць работу па перапісу жывёлы і гадавому абследванню, каб поўнасцю забяспечыць сцягванне матэрыялаў па абследванню прамысловасці ў паказаны тэрмін.

Першае заданне, якое атрымалі райінспектара па гадавому абследванню—складанне спісаў прадпрыемстваў, падлягаючых абследванню, вельмі значнай часткай райінспектур праведзена надзвычайна дрэнна. Некаторыя райінспектуры не патурбаваліся нават прачытаць указанні па складанню спісаў, дзе ўказвалася, што, паміма спісаў цэнзавых прадпрыемстваў, павінны складацца спісы райвыканкомаўскіх прадпрыемстваў і прадпрыемстваў мінеральных будматэрыялаў.

Такія адносіны пагражаюць зрывам гэтай важнейшай работы.

Прапаную ўсім інспектарам Наргасучота тэрмінова перагледзець складзеныя спісы прадпрыемстваў і выправіць дапушчаныя памылкі і ў далейшым пры правядзенні гадавога абследвання прыняць рэальныя меры, забяспечваючыя выкананне гэтай работы ў тэрмін. Інфармацыю аб ходзе работ па гадавому абследванню прысылайце штодэкадна. (1-га, 10-га, 20-га).

Нач. КНГУ БССР *Владзімірскі.*

---

## Кансультацыі па рабоце па абследванню прамысловасці за 1934 г.

1-е пытанне:

1. Якая розніца з эканамічнага пункту гледжання паміж паняццем сыравіна, дапаможны матэрыял, паліва, гатовыя вырабы, паўфабрыкаты і так званае „незавершенное производство“?

Адказ:

Безумоўна, паміж гэтымі паняццямі з эканамічнага пункту гледжання розніца ёсць. Гэтае паняцце трэба падзяліць на дзве часткі: па-першае: сыравіна, дапаможны матэрыял паліва і па-другое: гатовыя вырабы, паўфабрыкат, „незавершенное производство“.

Апрэдзяленне гэтых паняццяў звычайна робіцца з пункту гледжання завода, хаця іх можна рабіць, скажам, з пункту гледжання трэста, цэлай галіны прамысловасці.

Сыравінай для завода будзе такі матэрыял, які ідзе на выработку гатовых вырабаў на заводзе, але які яшчэ на гэтым заводзе ніякай апрацоўцы не падвяргаўся, на які труд рабочых данага завода яшчэ не затрачваўся. Трэба адзначыць, што сыравіна для данага завода ў той-жа час з'яўляецца гатовым вырабам для другога завода. Калі на сыравіну калякты работнікаў данага завода яшчэ труда не затрачваў, то гэта не азначае, што сыравіна гэта такі прадукт, над якім наогул не працавалі. Сыравіна прайшла трудавы працэс, але толькі не на даным заводзе, а дзе-та раней, у папярэдняй гаспадарчай адзінцы.

З паняццем сыравіны цесна сутыкаецца паняцце дапаможны матэрыял і паліва. Паліва па сутнасці гэта той-жа самы дапаможны матэрыял. Усё тое, што мы гаварылі аб сыравіне, адносіцца і да дапаможнага матэрыялу. Розніца паміж сыравінай і дапаможным матэрыялам тая, што з сыравіны вырабляецца гатовы выраб, а дапаможны матэрыял альбо ўдзельнічае ў стварэнні гатовага выраба косвенна, як паліва, змазачныя масла, і т. д., альбо прымяняецца для ўмацавання формы, колера, гатовага вырабу, як цвікі, фарба, палітура і т. д.

Калі сыравіна, дапаможны матэрыял на даным заводзе апрацоўцы не падвяргаліся, то гатовы выраб, поўфабрыкат з'яўляюцца рэзультатам труда работнікаў данага завода.

Пад гатовым вырабам разумеецца такі прадукт, над якім на даным заводзе ўсе вытворчыя аперацыі закончаны і ніякай далейшай апрацоўкі на гэтым заводзе ўжо зрабіць нельга.

Пад паўфабрыкатам разумеецца такі прадукт, які на даным заводзе яшчэ можна падвергнуць далейшай апрацоўцы. Возьмем, напрыклад, цагляны завод. Апаленая цэгла будзе для гэтага завода гатовым вырабам, а цэгла-сырэц—паўфабрыкатам, так як цэглу-сырэц мы яшчэ можам на гэтым заводзе падвергнуць далейшай апрацоўцы, апалу.

Так званае „незавершенное производство", гэта такое становішча вырабляемых на даным заводзе прадуктаў, калі яны займаюць памежнае становішча, альбо паміж гатовым вырабам і паўфабрыкатам (напр. загружаная і апальваемая ў печы на цагельным заводзе цэгла-сырэц), альбо паміж сыравінай і паўфабрыкатам.

2-е пытанне:

Што будзе з'яўляцца сыравінай для тарфяной прамысловасці?

Адказ:

Тарфяная прамысловасць сыравіны не мае. Таксама сыравіны не маюць і рад іншых галін прамысловасці, як цагельная, здабыча руд, каменнага вугля, нафты і т. д.

3-е пытанне:

Ці трэба абследаваць блізкія к цэнзу прадпрыемствы, унесеныя ў спісы?

Адказ:

У звязку з тым, што шэраг прадпрыемстваў, якія былі пры рэгістрацыі прамысловасці 1934 г. нецэнзавымі, маглі стаць к канцу 1934 г. цэнзавымі, неабходна ў спіс уключыць і прадпрыемствы блізкія к цэнзавым, так як гэта дасць магчымасць пры гадавым абследванні прамысловасці высветліць, ці павінны яны быць аднесены да групы цэнзавых прадпрыемств.

4-е пытанне:

Ці трэба абследваць дробныя электрастанцыі пры кіно, дамах адпачынку, калгасах, соўгасах, працуючыя толькі на асвятленне.

Адказ:

Абследванню падлягаюць усе электрастанцыі незалежна ад іх назначэння, магутнасці і месцазнаходжання. (Гл. артыкул т. Варатынскага).

5-е пытанне:

Ці абавязкова трэба прытрымлівацца номенклатуры вырабаў і чаму?

Адказ:

Прытрымлівацца номенклатуры патрэбна абавязкова, так як вытвараемая прадукцыя, пры незахаванні адзінай номенклатуры вырабаў, можа прывесці да таго, што мы будзем пазбаўлены мець зводку па паасобным вырабам.

Неабходна прасачыць за тым, каб прадукцыя ў натуральным выразе пры запаўненні бланкаў гадавога абследвання, была-б абавязкова паказана ў тых адзінках вымярэння, якія прадугледжаны номенклатурай.

6-е пытанне;

Якія матэрыялы можна скарыстаць для кантроля бл. „Ц“, „М“, „Э“, „Ж“?

Адказ:

Асноўным матэрыялам пры кантролі бланкаў з'яўляюцца даныя за 1933 г. (па матэрыялам рэгістрацыі прамысловасці 1934 г.) а таксама данныя абследвання 1931 г. (пашпарты) і за 1932 г. (бланк „В“).

Кантроль павінен вытварацца шляхам сапастаўлення паказчыкаў бланка „Ц“, „М“, „Э“, „Ж“ з адпаведнымі данымі за мінулыя гады. Пры выяўленні значных разыходжанняў высветліць прычыну. Аб усіх разыходжаннях на палях бланкаў патрэбна рабіць адпаведныя заўвагі.

Пажадана, каб паступаючы матэрыял правяраўся ў прысутнасці асоб, запаўняўшых бланк на прадпрыемства.

*Мохарт, Барэнбаум, Варатынскі.*

---

## Вынікі работы райінспектур Наргасучота за 1934 год.

Падводзячы вынікі работы райінспектур за мінулы год, неабходна перш за ўсё адзначыць, што ўкамплектаванне пераважнай часткі раёнаў палітычна-праверанымі здольнымі работнікамі ў значнай ступені узняла кіраўніцтва справай учота і статыстыкі ў раёнах і гэтым самым павысіўся і аўтарытэт інспектур Наргасучота, у прыватнасці ў такіх раёнах, як Шклоў, Барысаў, Орша, Гарадок, Лагойск, у якіх раней зусім не адчувалася інспектура і раённыя арганізацыі не зварачвалі ніякай увагі на інспектуру, лічачы яе зусім не патрэбнай. Зараз у гэтых раёнах інспектуры паступова займаюць сваё належнае масца.

Але не гледзячы на гэта, большасць райінспектур карэнным чынам яшчэ не перабудавалі сваю работу так, каб учот стаў не толькі асновай да складання чоткага плана, але і ключом да яго выканання, не адлюстроўваюць гіганцкіх поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва у прамысловасці і сельскай гаспадарцы і засчастую несвоечасова сігналізуюць кіруючым раённым арганізацыям аб паасобных адстаючых участках на той ці іншай галіне народнай гаспадаркі раёна і гэтым самым не садзейнічаюць аперацыйнаму кіраўніцтву і аказанню гэтым адстаючым участкам патрэбнай дапамогі.

Возьмем больш узорныя райінспектуры як Гомель, Бешанковічы, Касцюковічы, Капыль, Буда-Кашалёва, Сіроціна, якія больш-менш здавальняюча выконвалі план учотна-статыстычных работ, своечасова прадстаўлялі добраякасны матэрыял КНГУ, але ўсё-ж такі і гэтыя раёны яшчэ маюць шэраг недахопаў, як напр.: Бешанковічская і Сіроцінская інспектуры не складаюць асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну, слаба ўнядраецца первічны ўчот у сельсоветах, недастаткова вядзецца барацьба са зрыўшчыкамі ўчотнай дысцыпліны, не прыцягнута грамадскасць да справы учота, асабліва гэта датычыцца Віцебскай інспектуры, дзе да гэтага часу няма арганізацыі ВОСУ, у той час, калі Віцебская інспектура мае ўсякія магчымасці да гэтай справы.

Выключэннем з'яўляецца Бабруйская інспектура, як узорная па прадстаўленню кіруючым раённым арганізацыям агляда выканання плана народнай гаспадаркі па раёну, а таксама па разгортванню масавай работы (арганізацыя ячэек ВОСУ, прымацаванне бухгалтароў прадпрыемств да калгасаў, для аказання ім належнай дапамогі ў наладжванні учота, арганізацыя курсаў і г. д.)

Значна падцягнуліся у свей рабоце Жлобін, Мазыр, Нароўля Парычы і Слуцк, але яны яшчэ не сталі сапраўднымі кіраўнікамі справай учоту ў раёне і вельмі правільна РК КП(б)Б Аршанскага раёна паставіў на від інспектару Наргасучота т. Соміну за тое, што апошні не прадстаўляе паказчыкаў выканання плана па раёну.

Інспектары Наргасучота, за выключнымі выпадкамі, не ставілі пытанняў аб учоце ў калгасах, соўгасах, прадпрыемствах на прэзідыумах РВК і на бюро РК, у выніку чаго раённыя арганізацыі мала цікавяцца работай інспектур, а падчас і нават ігнаруюць інспектуру, лічачы яе непатрэбнай (Асіпавічы).

Другая частка інспектур, як Чэрвень, Мсціслаў, Расоны, Сенно вельмі задаволены, калі іх не чапаюць раённыя арганізацыі і з свайго боку трымаюць палітыку „неумяшацельства“ ў справу пастаноўкі учота і барацьбы за ўчотную дысцыпліну.

Самымі адстаючымі з'яўляюцца Дзержынская і Клімавічская інспектуры, асабліва апошняя, якая на працягу 1934 г. знаходзілася 10 месяцаў у 4-й катэгорыі, а на запытанні і ўказанні КНГУ не лічыць нават патрэбным адказваць.

Падбор кадраў участковых інспектароў і асабліва кіраўніцтва іх работай вельмі слабае. За апошні час кіраўніцтва Наргасучота былі зняты з працы шэраг участковых інспектароў у Талачынскім, Бешанковічскім і Парыцкім раёнах за п'янства і лодырніцтва.

Праведзены ў студзені м-цы перапіс жывёлы значна ўскалыхнуў райінспектуры і выявіў здольнасці кожнага раённага і участковага інспектара праводзіць у жыццё мерапрыемствы партыі і ўрада і значна павысіўся аўтарытэт перад раеннымі арганізацыямі тых інспектур, якія здолелі правесці гэта мерапрыемства належным чынам.

Праведзены перапіс жывёлы павінен стаць адпраўным пунктам для далейшага разгортвання і ўмацаваня" ўчотнай справы ў раёне.

Распрацоўка матэрыялаў перапісу жывёлы, сістэматычны кантроль і дапамога сельсоветам і калгасам ва ўнядрэнні пярвічнага ўчота, наладжванне учота ў аддзелах РВК (у прыватнасці у РайЗА і РайАНА), штомесячнае прадстаўленне кіруючым раённым арганізацыям агляда выканання плана народнай гаспа-

даркі па раёну—вось галоўнае, што павінна быць паложана ў аснову работы кожнай інспектуры на 1935 год, інакш мы, як органы соцыялістычнага учота, не выканаем задачы, ускладзеныя на нас партыяй і ўрадам.

Неадкладна кожнаму інспектару неабходна дэталёва і ўсебакова праверыць участковых інспектароў, аб неадпавядаючых свайму прызначэнню паведаміць КНГУ для аслабанення ад работы і падабраць кандыдатур з палітычна-праверадных і здольных забяспечыць ажыццяўленне ўскладзеных на іх задач.

*Магідаў*

---

## Вынікі работы райінспектур Наргасучота БССР за 1934 год.

| Займае-мае ме-сца | | Знаходзіліся ў катэгорыях па ліку месяцаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | у I кат. | у II кат. | у III кат. | у IV кат. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | Гомель | 9 | 2 | 1 | — |
| 2 | Бешанковічы | 8 | 4 | — | — |
| 3 | Касцюковічы | 5 | 6 | 1 | — |
| 4 | Копыль | 4 | 6 | 2 | — |
| 5 | Буда-Кашалёва | 4 | 6 | 2 | — |
| 6 | Старыя-Дарогі | 4 | 5 | — | 3 |
| 7 | Брагін | 3 | 7 | 2 | — |
| 8 | Магілеў | 3 | 1 | 8 | — |
| 9 | Карма | 2 | 8 | 2 | — |
| 10 | Бялынічы | 2 | 7 | 3 | — |
| 11 | Тураў | 2 | 9 | 1 | — |
| 12 | Віцебск | 2 | 7 | 3 | — |
| 13 | Слуцк | 1 | 9 | 2 | — |
| 14 | Талочын | 1 | 8 | 3 | — |
| 15 | Бабруйск | 1 | 7 | 4 | — |
| 16 | Орша | 1 | 4 | 7 | — |
| 17 | Любань | — | 9 | 3 | — |
| 18 | Барысаў | — | 7 | 5 | — |
| 19 | Прапойск | — | 6 | 6 | — |
| 20 | Парычы | 1 | 2 | 9 | — |
| 21 | Сіроціна | 2 | 6 | 2 | 2 |
| 22 | Смалявічы | 1 | 6 | 3 | 2 |
| 23 | Ушачы | 2 | 5 | 4 | 1 |
| 24 | Рэчыца | 2 | 5 | 3 | 2 |
| 25 | Лоеў | 1 | 6 | 4 | 1 |
| 26 | Узда | 2 | 5 | 3 | 2 |
| 27 | Чачэрск | 1 | 5 | 3 | 3 |
| 28 | Мазыр | 1 | 4 | 6 | 1 |
| 29 | Ветка | 1 | 5 | 3 | 3 |
| 30 | Заслаўль | 1 | 3 | 6 | 2 |
| 31 | Сураж | 1 | 2 | 6 | 3 |
| 32 | Чэрвень | 1 | 1 | 7 | 3 |
| 33 | Жлобін | 1 | 1 | 7 | 3 |
| 34 | Ельск | 1 | 1 | 7 | 3 |
| 35 | Дрыса | — | 8 | 3 | 1 |
| 36 | Быхаў | — | 6 | 5 | 1 |
| 37 | Лельчыцы | — | 6 | 5 | 1 |

| Займае-мае ме-сца | | Знаходзіліся ў катэгорыях па ліку месяцаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | у I кат. | у II кат. | у III кат. | у IV кат. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 38 | Чырвоная-Слабада . . | — | 6 | 5 | 1 |
| 39 | Церэхава . . . | — | 5 | 6 | 1 |
| 40 | Гарадок . . . . | — | 5 | 5 | 2 |
| 41 | Асіпавічы . . . | — | 6 | 3 | 3 |
| 42 | Бягомль. . . . | — | 4 | 7 | 1 |
| 43 | Старобін . . . | — | 4 | 7 | 1 |
| 44 | Уваравічы . . . | — | 4 | 6 | 2 |
| 45 | Шклоў . . . . | — | 5 | 4 | 3 |
| 46 | Чэрыкаў. . . . | — | 4 | 5 | 3 |
| 47 | Чашнікі . . . . | — | 4 | 5 | 3 |
| 48 | Лагойск . . . . | — | 4 | 5 | 3 |
| 49 | Глуск . . . . | — | 4 | 4 | 4 |
| 50 | Крупкі . . . . | — | 3 | 5 | 4 |
| 51 | Лепель . . . . | — | 3 | 6 | 3 |
| 52 | Лезна . . . . | — | 3 | 4 | 5 |
| 53 | Чырвонаполле . . | — | 3 | 4 | 5 |
| 54 | Мсціслаўль . . . | — | 4 | 6 | 2 |
| 55 | Жыткавічы . . . | — | 4 | 6 | 2 |
| 56 | Хойнікі . . . . | — | 2 | 7 | 3 |
| 57 | Дуброўна . . . | — | 2 | 6 | 4 |
| 58 | Расоны . . . . | — | 2 | 6 | 4 |
| 59 | Сенно . . . . | — | 2 | 5 | 5 |
| 60 | Клічаў . . . . | — | 2 | 4 | 6 |
| 61 | Бярэзіна . . . | — | 2 | 4 | 6 |
| 62 | Полацк . . . . | — | 2 | 4 | 6 |
| 63 | Рагачоў . . . . | — | 2 | 4 | 6 |
| 64 | Нароўля. . . . | — | 2 | 4 | 6 |
| 65 | Пухавічы . . . | — | 1 | 8 | 3 |
| 66 | Асвея . . . . | — | 1 | 9 | 2 |
| 67 | Менск . . . . | — | 1 | 8 | 3 |
| 68 | Камарын . . . | — | 1 | 8 | 3 |
| 69 | Дзержынск . . . | — | 1 | 5 | 6 |
| 70 | Горкі . . . . | — | 1 | 5 | 6 |
| 71 | Петрыкаў . . . | — | 1 | 4 | 7 |
| 72 | Крычаў . . . . | — | 1 | 6 | 5 |
| 73 | Плешчаніцы . . . | — | — | 6 | 6 |
| 74 | Чаўсы . . . . | — | — | 6 | 6 |
| 75 | Клімавічы . . . | — | — | 2 | 10 |

# За унядрэнне первічнага учота.

## Пастанова

### Прэзідыума Аршанскага Райвыканкома

*Ад 1-га студзеня 1935 г.*

З паступаючых матэрыялаў з месц відаць, што не ўсе старшыні сельсоветаў зразумелі палітычна-гаспадарчае значэнне ўнядрэння правільнага пярвічнага ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах,—выходзячы з чаго на падставе пастановы СНК ад 6/VIII-34 г. (газета „Известия“ ЦИК СССР за № 182)— Прэзідыум Аршанскага РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць старшынь сельсоветаў, дзе знаходзяцца ўчастковыя інспектары НГУ (Багушэўск, Копысь, Смалляны) даваць ім бясплатна памяшканне для работы з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, ацяпленне, карыстанне тэлефонам).

2. Указаць старшыні Копыскага М/совета на недапушчальнае ігнарыраванне з яе боку пастановы СНК і РВК (замест безагаворачнага выканання гэтых пастаноў, забараніла ўчастковаму Інспектару НГУ карыстацца тэлефонам, маючы добрае памяшканне М/совета, не адведзена месца для работы ўчастковай інспектуры).

3. Папярэдзіць старшыню Багушэўскага с/с. т. Кудзяна, што з яго боку таксама праяўлена ігнарыраванне пастановы СНК і РВК (забараніў карыстацца тэлефонам участковаму інспектару, не аказвая належнай дапамогі ў штодзеннай рабоце па ўнядрэнню учота і адчотнасці).

4. Абавязаць усіх старшынь сельсоветаў уключыць у свой план работы сістэматычнае заслухоўванне на паседжаннях Прэзідыумаў, Пленумах аб становішчы ўчота ў сельсоветах і калгасах, прыцягвая да суровай адказнасці канкрэтных віноўнікаў, зрыўшчыкаў правільнай пастаноўкі ўчота і адчотнасці па сельсоветах і калгасах.

5. Старшыням сельсоветаў аказваць усямерную дапамогу участковым інспектарам у іх штодзеннай працы, прыцягвая ўвесь сельскі і калгасны актыў на лепшую ўзорную пастаноўку ўчота і адчотнасці.

Старшыня Райвыканкома—*Міцькоў.*

Сакратар Райвыканкома.—*Гурэвіч.*

---

## Пастанова

## Прэзідыума Суражскага Райвыканкому

*ад 21|XII-34 г.*

**Аб фактах ігнарыравання пярвічнага вучота пры с/советах.**

Адзначыць, што шляхам праверкі ўчастковымі інспектарамі пярвічнага учоту па Марчонскаму і Курынскаму с/с заўважана, што апошні знаходзіцца ў самым безабразным становішчы справай учота ведаюць па Марчонскаму с/с рахункавод Іваноў, ў Курынскім с/с Юшчэнка, якім была прапанавана прыняць адпаведныя меры каб у 5-ці дзёны тэрмін наладзіць вучот, але і да гэтага часу не выкананы ўказання ўчастковага інспектара і справа вучота і надалей застаецца блытанай.

Выходзячы з чаго Прэзідыум РВК пастанаўляе:

За дрэнныя і безабразныя адносіны ў справе учота, што саздае блытаніну і нячоткасць у працы с/саветаў, у асаблівасці па Марчонскаму с/совету рахункаводу Іванову абвясціць вымову і папярэдзіць з Курынскага с/с т. Міхеенку калі апошні да 1/I-35 г. не наладзіць вучота пры с/с, то ен будзе аддадзены пад суд, як за сабатаж ў справе вучота, адначасова папярэдзіць усіх працаўнікоў с/с, што канчатковым тэрмінам па наладжванню вучота пры с/с з'яўляецца 1/I-35 года, пасля чаго пры абнаружэнні ігнарыравання гэтай пастановы Райвыканкомам будуць прымацца суровыя меры ўздзейнічання ўплоць да аддання пад суд.

Нам. Старшыні РВК *Арапучык.*

---

## Пастанова

## Прэзідыума Копыльскага Раённага Выканаўчага Камітэта

*ад 19 лістапада 1934 г.*

Слухалі:

Матэрыялы праверкі пастаноўкі пярвічнага учоту ў Пукаўскім с/совеце (дакл. Райінспектар НГУ т. Барысаў.

Пастанавілі:

1. Адзначыць, што пастанова СНК па пярвічнаму учоту Пукаўскім сельсоветам не выконваецца, адсутнічаюць у устаноўленых формах паказчыкі выканання паасобнымі гаспадаркамі плана абавязковых пастановак і грашовых паступленняў, што

не дае штодзённай карціны ходу выканання заданняў па асобным гаспадаркам, для штодзённага аперацыйнага кіраўніцтва.

2. За ігнараванне пастановы Ураду, Старшыні Пукаўскага с/совета т. Харытончыку, які ў час унядрэння первічнага учота з'яўляўся сакратаром с/совета, абвясціць вымову.

Папярэдзіць сакратара Пукаўскага с/совета, як адказнага за учэт у сельсовеце, што пры далейшай заблытанасці учоту, справа будзе перададзена следчым органам.

3. Абавязаць Пукаўскі сельсовет, персанальна Старшыню і сакратара на працягу аднэй дэкады, завесці первічны учот па усім галінам, не дапушчаючы ў далейшым ніякіх зацяжак па разносцы выканання абавязацельств гаспадаркамі і калгасамі, па атрыманым дакументам.

4. Адзначаючы, што шэраг раёных арганізацый Маслапрому (па малаку) Райзаг (па шэрсці) Дораддзел па (працудзелу) і др. не дасылаюць сельсоветам у тэрміны устаноўленых зводак, чым зрываюць кантроль выканання паасобнымі гаспадаркамі абавязкаў перад Дзяржаваю; абавязаць дырэктара канторы Маслапрома т. Кукова, Заг. Райза т. Губерта і заг. Райдораддзела т. Целешка заставіць нізавыя звенні сваіх сістэм ліквідаваць перад сельсоветамі адставанне па учоту, устанавіўшы тэрмін выканання 5/XII-г. г.

5. Даручыць Райінспекцыі НГУ да 20 снежня г. г. вытварыць праверку пастаноўкі пярвічнага учота па 12 сельсоветам раёну і вынікі становішча пастаноўкі пярвічнага учота далажыць прэзідыуму РВК, з практычнымі мерапрыемствамі па наладжванню і вядзенню пярвічнага учота.

Старшыня РВК *Рубэн.*

Сакратар *Шчарбовіч.*

---

# Пастанова

## Прэзідыума Быхаўскага Райвыканкома

*ад 29-га снежня 1934 года.*

### „Аб першапачатковым учоце ў сельсоветах раёна"

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 20/XI-34 г. і пастановай СНК-БССР ад 8/XII-34 г. „аб першапачатковым учоце ў с/советах на 1935 год", Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1) Абавязаць с/с. і Горсовет увесці з 1-га студзеня 1935 года першапачатковую дакументацыю паводле зацверджанага СНК

СССР пераліка форм учота і першапачатковай дакументацыі сельскіх саветаў.

2. Адказнасць за своечасовае правядзенне зацверджанага першапачатковага учота ускласці на старшынь с/советаў.

3. У мэтах дасканалага азнаямлення работнікаў с/советаў з формамі сельсовецкага учота—склікаць у студзені м-цы нараду сакратароў і рахункаводаў с/советаў.

4. Прапанаваць інспектару Наргасучота сістэматычна аказываць інструкцыйную дапамогу работнікам с/советаў і ведамстваў па ўвядзенню першапачатковай дакументацыі, устанавіць сістэматычны нагляд за правядзенням у жыццё рашэнняў ураду аб учоце, прыцягвая да адказнасці зрыўшчыкаў першапачатковай дакументацыі.

5. Наргасвучоту раёна на працягу 3-х дзён забяспечыць советы патрэбнай колькасцю форм, бланкаў і кнігамі.

6. За своечасовае вядзенне зацверджанай першапачатковай дакументацыі ў советах адказнасць ускласці на Нам. старшыню тав. Дзегірэўскага і інспектара Наргасвучота т. Старавойтава.

7. На працягу першага квартала 1935 г. заслухаць 2—3 сельсовета аб становішчы ўвядзення первічнай дакументацыі ў іх саветах.

Старшыня РВК *Грынкевіч.*

Сакратар *Несцярэнка.*

---

## Конкурс

### на лепшае правядзенне работы па перапісу жывёлы ў Веткаўскім р-не па становішчу на 1/I 1935 г.

У мэтах своечасовага і добраякаснага правядзення перапісу жывёлы у р-не і выяўлення лепшых узораў работы рэгістратараў і ўчастковых інспектароў, Райвыканком абвяшчае конкурс на лепшага рэгістратара і ўчастковага інспектара НГУ.

Конкурс абвяшчаецца на час перапісу жывёлы з 1-га да 15-га студзеня 1935 года.

Умовы конкурса

1. Добраякаснае запаўненне фармуляраў па перапісу:

а) поўны ахоп пры перапісу ўсіх населеных пунктаў і ўсіх гаспадарак ў кожным пункце;

б) правільнае аднясенне гаспадарак да той ці інш. соцыяльнай катэгорыі (калгаснікі, аднаасобнікі, рабочыя і служачыя);

в) абавязковы агляд жывёлы ў натуры, пасля апросу ў кожнай гаспадарцы пры перапісу, у мэтах поўнага выяўлення ўсей жывёлы і фактаў укрыцця жывёлы ад перапісу;

г) правільнае запаўненне фармуляраў па відам і групам жывёлы;

д) дасканальны падлік ітогаў па паселішчам і сельсоветам і правільнае складанне сельсовецкай зводкі.

2. Сканчэнне перапісу па вучастку і с/с. у тэрміны вызначаныя па аперацыйнаму плану без парушэння вызначанай планам чарговасці абхода паселішч і калгасаў.

3. Своечасовая інфармацыя ўчастковых інспектароў і Раённай інспектуры Наргасучота аб ходзе выканання плану перапісу.

4. Своечасовая і добраякасная здача ўчастковаму інспектару афомленых матэрыялаў па перапісу жывёлы (фармуляры і с/с. зводкі).

5. Своечасовае паведамленне старшыням с/с. аб фактах злоснага укрыцця жывёлы для прыцягнення віноўных да адказнасці.

6. Мабілізацыя грамадскасці вакол пытання перапісу жывёлы (арганізацыя і ўцягненне груп садзейнічання перапісу, правядзенне растлумачальнай працы сярод насельніцтва і г. д.).

Прэміі

За выкананне паказчыкаў конкурса вызначаюцца прэміі: 1-я—100 руб., 2 прэміі па 75 руб. і 5 прэмій па 50 руб.

Ацэнка работы рэгістратараў, участковых інспектараў і вызначэнне прэміі ўтвараецца камісіяй ў складзе: т.т. Фінаева, Пастарнака і Чарэпка.

## Ельск

Азнаёміўшыся з артыкулам, змешчаным у газэце „Звязда“ ад 20/XII 1934 г. за № 284 пад назвай „Наладзіць дакладны ўлік у калгасах“, Ельская райінспектура сумесна з участковымі інспектарамі бярэ на сябе абавязак аказаць усямернае садзейнічанне калгасам, Ельскага раёна па складанню гадавых справаздач за 1934 год.

У мінулым годзе гэта работа па Ельскаму раёну была амаль сарвана і агульная зводка (перачнеўка) па р-ну з няпоўнымі даннымі складалася у ліпені месяцы.

Каб пазбегнуць такога становішча ў гэтым годзе нашай інспектурай прадпрынімаюцца наступныя захады:

У час правядзення інструктажа з рахункаводамі калгасаў па пытанню перапісу жывёлы, які будзе праведзен 28/XII 1934 г., увязваем праработку бланка гадавой справаздачы калгасаў і план размеркавання даходаў у калгасах.

Пры правядзенні самой работы, праз участковых інспектароў і яч. ВОСУ арганізаваць канкрэтную дапамогу калгасам у складанні гадавых справаздач.

Да 1/I арганізаваць новых 5 яч. ВОСУ ў больш буйных ўстановах і арганізацыях.

Дабіцца перад прэзідыумам РВК аб прымацаванні бухгалтароў з райустаноў для аказання дапамогі па складанню гадавых справаздач калгасам, з асобым рахунковым апаратам.

Выклікаем паследаваць нашаму прыкладу спаборнічаючую з намі Слуцкую Райінспектуру.

Райінспектар *Стражнікевіч.*

Уч. Інспектары (подпісы)

---

# III. РАБОТА ЎЧАСТКОВЫХ ІНСПЕКТАРОЎ.

## т. Беляўскі

Участковы інспектар Мазырскага раёна.

Згодна плана райінспектуры мною абследвана пастаноўка учота і справаздачнасці ў 5 сельсоветах: Юравіцкім, Беразоўскім, Крышыцкім, В. Аўцюкоўскім, Антонаўскім і часткова М. Аўцюкоўскім і 24 калгасах.

Ва ўсіх паказаных сельсоветах ф. № 2-а, 2-б і 3 за 1934 г. вяліся нярашліва і з памаркамі, асабліва па ф. № 3.

Раённыя арганізацыі і ў прыватнасці Райза патрабаваў звесткі ад сельсоветаў па незацверджаным формам і не ва ўстаноўленыя тэрміны, што адбівалася на якасць первічнага учота. Правільнаму вядзенню кнігі ф. № 3 перашкаджала тое, што нарыхтоўчыя арганізацыі ў прыёмных квітах пішуць толькі прозвішча без імя па і бацьку.

Прапанована сельсоветам безадкладна запаўняць адзнакі аб выкананні, не збірая адразу квітоў з усей вёскі, як гэта практыкавалась да апошняга часу і дадзены ўказанні нарыхтоўчым арганізацыям аб падрабязным запаўненні квітоў.

Кнігі ЗАГС вядуцца ў сельсоветах нябрэжна асабліва аб памершых, адказы маюцца не на ўсе запытанні бланка, пе паказваюцца прычыны смерці, альбо пішуцца са слоў „ад васпалення".

Па Юравіцкаму сельсовету ў кнігі аб памершых не занесены самагубцы, чакая пакуль прыдзе хто зарэгістраваць, у Крышыцкім, Гулевіцкім, Антонаўскім і Дудзіцкім сельсоветах пры рэгістрацыі нарадзіўшыхся ўзымаюць незаконна па 1 і па 3 руб., копіі актаў не высылаюцца ў інспектуру ва ўстаноўленыя тэрміны.

Мною даны вычарпальныя ўказанні, як патрэбна запаўняць акты і ў якіх выпадках сельсовет мае права ўзымаць плату згодна інструкцыі НКФ за № 105.

Сельсоветы не ведалі як адкрываць новыя ліцавыя рахункі на гаспадаркі мяняючыя свае соц. становішча, аб чым мною таксама даны ўказанні.

Не ва ўсіх сельсоветах маюцца альбомы форм справаздачнасці, у выніку чаго яны зачастую даюць звесткі па незацверджаным формам.

Рахункаводства ў калгасах вядзецца па простай сістэме, большасць рахункаводаў нізкай кваліфікацыі і з двайной сістэмай зусім не знакомы.

Калгасы недастаткова забяспечаны бланкамі і кнігамі.

Усе абследванні калгасаў праведзены сумесна з старшынямі рахункаводамі і заг. фермамі.

Для павышэння кваліфікацыі рахункаводаў калгасаў лічу неабходным арганізаваць каротка-тэрміновыя курсы.

## Гумінскі, А. С.

Участковы інспектар Аршанскага раёна

Аршанскі раён з'яўляецца адным з перадавых раёнаў БССР ў выкананні гаспадарча-палітычных кампаній, але мае шэраг недахопаў ў пастаноўкі ўчота і справаздачнасці, асабліва ў сельсоветах і калгасах, у прыватнасці: Багушэўскі, Спайкоускі Межаўскі сельсоветы.

Яшчэ горш абстаіць справа ў калгасах, таму што Райза не забяспечвае дастаткова формамі учота, а заг. Райза т. Касцюковіч дае ўказанні калгасам, што яны могуць уваздзіць пярвічны учот на любым формам, акрамя таго Райза патрабуе ад сельсоветаў спісы насельніцтва па ўзросту і полу.

Мною безумоўна гэтая незаконнасць забаронена і зараз-жа пасля майго звароту з курсаў я ўзяўся за правядзенне перапісу бібліатэк і промабсталяванні, а пасля гэтага я правёў інструкцыйную нараду рахункаводаў калгасаў.

Па перапісу жывёлы мною с/с былі разбіты на перапісныя участкі і замацаваў участкі за рэгістратарамі, ставіў інфармацыі аб прадстаячай перапісі на прэзідыумах сельсоветаў.

У выніку правадзімых мною работ участак першым па раёну скончыў перапіс жывёлы і першым прадставіў матэрыял па перапісу.

## Вецэр П.

Участковы інспектар Глускага раёна

Пры праверцы мною становішча пярвічнага учота ў с/с высветлена недапушчальнае становішча ў Гарадкоўскім сельсовеце, дзе кнігі раскінуты і размазаны, у Макавіцкім і Казловіцкім с/с кнігі зусім не распачаты.

Мною складзены акты і накіраваны райінспектару і РВК. Апошні папярэдзіў усіх сельсоветаў аб неабходнасці ўпарадкавання справы учота, но не гледзячы на гэта пры паўторнай праверцы аказалась, што не ўсе сельсоветы выканалі распараджэнне РВК і я вымушан быў накіраваць справу пракурору для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

## Калінін С.

Участковы інспектар Цярахоўскага раёна.

Пры першай праверцы становішча учота ў сельсоветах выяўлена, што не ўсе сельсоветы правільна завадзілі кнігі і мною былі даны ўказанні на працягу ўстаноўленага тэрміна ўпарадкаваць гэту справу.

Пры другой праверцы аказалась, што ўсе сельсоветы майго ўчастка, акрамя Кузьміцкага с/с поўнасцю ўпарадкавалі і правільна завялі пярвічны учот.

## Барысаў.

Інспектар Наргасучота Капыльскага раёна.

З арганізацыяй інстытуту Участковых інспектароў, раённым інспектурам аказвалася велізарная дапамога ў арганізацыі учота, выяўленні учотных кадраў, барацьбе за актуальную, верную лічбу, злоўжываннямі і скажэннямі зацверджанай справаздачнасці.

Райінспектура, меўшая штат у 3 чалавека, з наплывам участковых інспектароў, нейк з пачатку замяшкалася ў няведанні з чаго распачаць працу учінспектарам. Задачы учінспектароў былі вядомы, але жаданне ахапіць усе ўчасткі разам, ведаць іх становішча па ўсяму раёну—аказаліся не пад сілу.

На дапамогу уяўлення агульнага становішча учоту прышла першая, экзаменуючая учінспектароў праца,—праца па размеркаванню даходаў сярод калгаснікаў, якая была зжата ў тэрмінах і патрабавала высокай якасці, т. як матар'ял павінен фігураваць на Ўсесаюзным З'ездзе Советаў.

На створанай нарадзе учінспектароў было прынята рашэнне, якое—у мэтах азнаямлення з пастаноўкай учота у калгасах—ахапляла замест 50 паложаных процантаў—усе 100% калгасаў. Нашу думку падтрымаў прэзідыум РВК, які ў дапамогу учінспектарам спусціў дырэктыву усім калгасам, у якой абавязваў забяспечыць падрыхтоўку патрэбнай дакументацыі і, каб улажыцца ў тэрмін і скарыстаць сабраны матэрыял на раённым з'ездзе Советаў—утвараць перавозку учінспектароў з калгасу ў калгас. Такім чынам быў сабраны каштоўны матэрыял па ўсім калгасам раёну і скарыстан на месцы. Першым ахапіўшым 100% калгасаў свайго участку быў учінспектар тав. Ждан. Папутна з гэтым інспектура мае агульнае ураджанне аб кадрах і пастаноўцы учоту ў калгасах. Быяўляліся такія факты як запатрабанне незацверджаных форм ад калгасаў (РАЙЗА), узважванне ў калгасах у пудах (калгас Карла Маркса) і няправільны перавод у клгр., што выклікала мажлівасць на кожным

пудзе кладаўшчыку мецъ фунт прыбытку, прыпіска і недапіска працадзён калгаснікам (калгасы Барацьбіт, Баявік), здача той ці інш. асабістай працы за працадні (старшыня калгасу Чырвоны Партызан за сшыццё сабе ботаў пералічыў шаўцу—не члену калгаса 7 працадзён). Такія пералічэнні унасілі блытаніну у рахункаводства калгасаў. Інспектарамі даваліся адпаведныя указанні. Па меры магчымасці інспектара дапамагалі калгасам у размеркаванні ураджаю (уч. інспектар—Міскевіч—к/г Блюхэра), але асноўная мэта уявіць становішча учоту была дасягнута. Работнікі калгасаў сустракаюць уч. інспектароў з пашанай, аказваючы ім поўную дапамогу ў сэнсе харчавання і перасоўвання, закідаюць іх пытаннямі па ўсім галінам калгаснага будаўніцтва.

Гэта выклікае неабходнасць падвышаць уч. інспектарам свой узровень вед і быць у курсе справы ўсіх рашэнняў партыі і Ураду ў справе калгаснага будаўніцтва, каб даваць абгрунтаваныя адказы.

Першы экзамен вытрыман.

Прадстаяць новыя больш складаныя іспыты на атрыманне „атэстату зрэласці" нашых уч. інспектароў—гэта перапіс жывёлы.

Створаная нарада паказала, што уч. інспектара ісці ў бой па поўнаму выяўленню пагалоўя жывёлы—гатовы.

---

## Загад № 47

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота БССР

*ад 28/ XII 1934 г.*

За зрыў работы па размеркаванню даходаў у калгасах і за п'янства участковага інспектара Бешанковічскага раёна Забаронка з працы зняць з 12/XII 1934 год з забаронай працаваць у органах учота ў працягу 3-х год

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі.*

---

## Загад № 5

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота БССР

*ад 14 студзеня 1935 г.*

За прагулы і п'янства ў працягу 7-мі дзён у адказны момант падгатоўкі да пачатку перапісу жывёлы—участковага інспектара Талачынскага р-на Свянціцкага з работы зняць і справу аб ім перадаць у суд.

Нам. Начальніка КНГУ БССР *Кацнельсон.*

## Загад № 8

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота БССР

*ад 20/ I 1935 г.*

За прагул і зрыў працы па перапісу жывёлы зняць з работы участковага інспектара Талачынскага раёна Гляк з 20/I 1935 г.

Нач. КНГУ БССР *Владзімірскі.*

---

## Наменклатура спраў,

### якія павінны быць заведзены ў райінспектурах Наргасучота на 1935 г.

1. Прамысловасць
2. Сельская гаспадарка
3. Перапіс жывёлы
4. Праца.
5. Насельніцтва
6. Фінансы
7. Будаўніцтва
8. Совецкі гандаль
9. Народная асвета
10. Ахова здароўя
11. Комунальная гаспадарка
12. Асабовы склад інспектуры і уч. інсп.
13. Арганізацыйныя пытанні
14. Работа ВОСУ
15. Фінансавая справа.

Для ўпарадкавання пярвічнага матэрыяла за 1934 г. патрэбна скласці зводныя табліцы па кожнай галіне народнай гаспадаркі раёна і палажыць іх у справы 1935 г. для таго, каб можна было пярвічны матэрыял злажыць у архіў.

Акрамя таго, неабходна, пачыная з студзеня месяца, рэгулярна штомесячна запаўняць сшытак „асноўныя паказчыкі плана народнай гаспадаркі раёна“ і прадстаўляць кіруючым арганізацыям агляды выканання плана па раёну.

---

## Якасць работы райінспектур Наргасучота БССР

на 1 студзеня 1935 г.

| Катэгорыя | Раён | Прарывы па работах |
|---|---|---|
| 1 | Гомель | Прарываў няма |
| 1 | Брагін | " |
| 1 | Жлобін | " |
| 1 | Карма | " |
| 1 | Копыль | " |
| 1 | Бялынічы | " |
| 1 | Буда-Кашэлева | " |
| 1 | Ушачы | " |
| 1 | Касцюковічы | " |
| 1 | Бешанковічы | Абследванне калгасаў |
| 2 | Быхаў | Натур. рух насельніцтва |
| 2 | Заслаўль | " " " |
| 2 | Лоеў | Фонд зарплаты |
| 2 | Лезна | Учот працы у прам., учот школ |
| 2 | Мсціслаў | Натур рух насельніцтва |
| 2 | Смалявічы | Фонды зарплаты |
| 2 | Талачын | Учот школ |
| 2 | Хойнікі | Натур. рух насельніцтва |
| 2 | Чачэрск | " " " |
| 2 | Шклоў | Абследванне калгасаў |
| 2 | Ч. Слабада | Учот працы у прам., рэгістр. жыв. буд. |
| 2 | Чэрыкаў | Натур. рух насельніцтва, фонды зарплаты |
| 2 | Слуцк | " " |
| 2 | Тураў | " " |
| 2 | Уваравічы | " " |
| 2 | Рагачоў | Натур. рух насельніцтва, абследванне калгасаў |
| 2 | Парычы | Учот працы у прам., рэгістр. жыв. буд. |
| 2 | Прапойск | Натур. рух насел. рэгістр. жыв. буд. |
| 2 | Орша | Натур. рух насел. ф. № 82 |
| 2 | Нароўля | " " рэгістр. жыв. буд. |
| 2 | Мозыр | " " фонды зарплаты |
| 2 | Любань | " " учот школ |
| 2 | Глуск | " " учот працы ў прам. |
| 2 | Віцебск | " " рэгістр. жыв. буд. |
| 2 | Бабруйск | Фонды зарплаты, абследв. калгасаў |
| 3 | Асвея | Натур. рух, рэгістр. жыв. буд. фонды зарплаты |
| 3 | Бягомль | Учот школ " " |
| 3 | Гарадок | Учот працы ў прам., натур. рух, абсл. калгасаў |
| 3 | Ельск | Натур. рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты |
| 3 | Крупкі | " абсл. калгасаў " |
| 3 | Крычаў | Натур. рух. учот працы ў прам. фонды зарплаты |

| Катэгорыя | Раён | Прарывы па работам |
|---|---|---|
| 3 | Менск | Учот працы ў прам., натур. рух., рэгістр. жыв. буд. |
| 3 | Магілеў | Учот працы у прам., натур. рух, учот школ |
| 3 | Плешчаніцы | Учот працы у прам., рэгістр. жыв. буд., фонды зарп. |
| 3 | Сіроціна | Учот працы у прам., учот школ, рэг. жыв. буд. |
| 3 | Сураж | Учот школ, рэг. жыв. буд., фонды зарплаты |
| 3 | Старобін | Учот працы у прам., натур. рух, абсл. калгасаў |
| 3 | Церахава | » натур. рух, фонды зарплаты |
| 3 | Чэрвень | » рэг. жыв. буд., зарплаты |
| 3 | Чашнікі | Натур. рух., рэгістр. жыв. буд., абсл. калгасаў |
| 3 | Барысаў | » » » і фонды зарплаты |
| 3 | Горкі | Учот працы у прам., натур. рух, фонды зарплаты, абследванне калгасаў |
| 3 | Дуброўна | Учот працы у прам., натур. рух, рэгістр. жыв. буд., ф. № 82. |
| 3 | Жыткавічы | Рэгістр. жыв. буд., ф. № 82, фонды зарплаты |
| 3 | Лельчыцы | Учот працы у прам. натур. рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты |
| 3 | Петрыкаў | Натур. рух нас. рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты, абсл. калгасаў |
| 4 | Асіпавічы | Па усім работам |
| 4 | Бярэзіна | Учот працы у прам., натур. рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарпл., бюджэты калгаснікаў. |
| 4 | Ветка | Учот працы у прам., натур. рух, учот школ, рэгістр. жыв. буд., ф. № 82. |
| 4 | Дзержынск | Натур. рух, учот школ, рэгістр. жыв. буд., ф. № 82, фонды зарплаты. |
| 4 | Дрисса | Учот працы у прам., натур. рух, рэгістр. жыв. буд., ф. № 82, абсл. калгасаў |
| 4 | Камарын | Натур. рух, учот школ, ф. № 82, фонды зарплаты |
| 4 | Клімавічы | Учот працы у прам., натур. рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарпл., абсл. калгасаў |
| 4 | Клічаў | Учот працы у прам, натур. рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты, абсл. калгасаў |
| 4 | Чырвонаполле | Па усім работам |
| 4 | Лепель | » |
| 4 | Лагойск | » |
| 4 | Полацк | Учот працы у прам., натур. рух, учот школ, фонды зарплаты |
| 4 | Пухавічы | Учот працы у прам., натур. рух нас., рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты |
| 4 | Расоны | Учот працы у прам., натур., рух, рэгістр. жыв. буд., фонды зарплаты |
| 4 | Рэчыца | Учот працы у прам., натур. рух, рэгістр. жыв. буд., учот школ, фонды зарплаты |
| 4 | Ст. Дарогі | Натур. рух., абсл. калгасаў |
| 4 | Сенно | Прарывы па усім работам |
| 4 | Узда | » |
| 4 | Чавусы | » |

Увага: Прарывы патрэбна разумець як па несвоечасоваму прадстаўленню матэрыялаў у КНГУ, гэтак і па дрэннай якасці матэрыялаў (Л.Т.).

# Работу ВОСУ ў цэнтр увагі ўчастковага інспектара.

Аднэй з важнейшых задач участковага інспектара Народна-Гаспадарчага учота з‘яўляецца работа па кантролю і інспектыраванню становішча ўчота ў калгасах, сельсоветах і інш. арганізацыях свайго участка.

Участковы інспектар павінен добра ведаць становішча учотна-статыстычных работ у гэтых арганізацыях. Ён павінен большую частку свайго часу праводзіць у сельсовеце, калгасах, на прадпрыемствах свайго участка. Бо толькі пры жывой сувязі і жывой праверцы учотнай работы на мясцах інспектар можа выявіць скажэнне учотных звестак, ведаць социяльна-палітычны твар і кваліфікацыю ўчотных кадраў арганізацый.

Паспяховасць работы інспектара ў гэтым напрамку ў значнай меры будзе залежыць ад актыўнага садзейнічання і дапамогі інспектара з боку грамадскасці, якая павінна быць арганізавана па лініі масавай грамадскай арганізацыі ў галіне социялістычнага ўчота—ВОСУ.

Усесаюзнае таварыства социялістычнага ўчота (ВОСУ) заклікана сыграць агромную ролю ў справе ажыцця́ўлення ўсенароднага социялістычнага ўчота і кантроля. Асноўным і важнейшым звяном у рабоце Т-ва з‘яўляецца нізавая ячэйка ВОСУ на прадпрыемстве, у калгасе, соўгасе і г. д.

План работы ўчастковых інспектароў, зацверджаны КНГУ Бел., прадугледжвае разгортванне дзейнасці ВОСУ шляхам арганізацыі ячэек ВОСУ з накіраваннем іх работы вакол канкрэтных задач социялістычнага ўчота і кантроля.

У дадатак да раней разасланай участковым інспектарам брашуры „Статут і палажэнне аб нізавых ячэйках ВОСУ“ ніжэй у гэтым бюлеценю змешчаны шэраг інструкцыйных матэрыялаў па арганізацыі і дзейнасці ячэек ВОСУ, а менавіта:

1) Як арганізаваць работу ячэек ВОСУ.

2) Формы інструкцыйныя ўказанні па ўчоту і арганізацыі ячэек ВОСУ.

3) Інструкцыя па арганізацыі работы і абслугоўванню ячэек ВОСУ ў калгасах.

4) Аб размерах уступных і членскіх узносаў.

Участковым інспектурам неабходным добра азнаёміцца з паказанымі матэрыяламі, для таго каб належным чынам разгарнуць работу па арганізацыі ячэек ВОСУ, у першую чаргу ў калгасах, і добра паставіць іх практычную работу.

Кожны ўчастковы інспектар павінен паставіць перад сабой задачу на працягу бліжэйшых 2—3 месяцаў арганізаваць узорныя ячэйкі ВОСУ ў 1—2 буйных калгасах і 1 у соўгасе свайго ўчастка.

Кіруючыся змяшчаемай тут інструкцыяй па арганізацыі ячэек ВОСУ у калгасах, выходзячы з стаячых перад імі задач—належыць намеціць на бліжэйшы перыяд невялікую колькасць пытанняў, але найбольш важных у ўмовах данага калгаса—і ўпарта дабівацца іх вырашэння. Напрыклад пытанні: аб унядрэнні ў калгасе ўстаноўленай урадам адчотнасці, барацьба з лішковай незаконнай адчотнасцю, правільна пастаўлены ўчот працадзён, учот на жывёлагадоўчай ферме, дапамога рэўкамісіі, гутаркі з калгаснікамі па азнаямленню іх з асноўнымі правіламі ўчота на паасобных участках калгаснай вытворчасці і г. д. ячэйцы ВОСУ трэба выбраць 2—3 пытанні актуальных для данага калгаса, і прыцягнуць да іх абмеркавання шырокую калгасную грамадскасць. Асноўныя пытанні сваей работы ячэйка павінна вынесці на абмеркаванне рэвізійнай камісіі, агульнага схода праўлення і на вытворчых нарадах брыгады.

Участковы інспектар павінен мець сталую сувязь з арганізуемымі ячэйкамі ВОСУ і з райаддзяленнямі. Наперад да ўтварэння апошніх ва ўсіх раёнах участковаму інспектару належыць звязацца непасрэдна з Бел. Оргбюро ВОСУ (Менск, Рэволюцыйная №3), якое належыць інфарміраваць аб арганізаваных ячэйках, аб іх практычнай працы, таксама зварачвацца па ўсім узнікаючым пытанням, якія патрабуюць паасобнага высвятлення,. альбо інструктажу.

*Краснаперка*

---

## А. Як арганізаваць работу ячэйкі ВОСУ

Нізавая ячэйка ВОСУ (Усесаюзнага таварыства соцыялістычнага ўчота) з'яўляецца асноўным і важнейшым звяном у рабоце таварыства. Правільна арганізаваная і шырока разгорнутая работа ячэйкі з'яўляецца тым рашаючым рычагом, пры дапамозе якога таварыства ажыццяўляе сваю асноўную задачу—арганізацыю „ўсенароднага“ (Ленін) соцыялістычнага ўчота і кантроля. Таму неабходна ўнесці планавасць ужо ў самую арганізацыю ячэйкі, якая павінна забяспечыць правільнае планаванне яе далейшай работы.

Як-жа наладзіць работу ячэйкі і забяспечыць здаровы яе рост? Першае і асноўнае палажэнне, якое трэба добра ўсвоіць кожнаму кіраўніку як ячэйкі, так і ўсіх паследуючых кіруючых звенняў ВОСУ, заключаецца ў наступным.

Кожны рабочы, рахунковы работнік, ІТР і служачы, уступаючы ў рады ВОСУ, ставяць перад сабой якую-небудзь пэўную мэту. Або, ведаючы слабыя бакі работы свайго прадпрыемства, установы, імкнецца, як сапраўдны актывіст, дапамагчы ў наладжванні ўчота і адчотнасці, у арганізацыі і правядзенні нізавога

кантроля, або жадае ліквідаваць сваю ўчотную няграматнасць, або павысіць сваю ўчотна-эканамічную кваліфікацыю і т. д.

Калі ячэйка ВОСУ з самага пачатку ўлічыць імкненне кожнага ўступаючага ў таварыства і ўцягне яго ў тую або іншую работу адпаведна асабістай яго зацікаўленасці, то яна немінуча ў самы кароткі тэрмін выхавае ў яго асобе актыўнага члена таварыства. Такім падыходам да кожнага члена ВОСУ мясцовая ячэйка дасягае адначасова наступных рэзультатаў: выхоўвае актыў таварыства і забяспечвае здаровы рост членскай масы, вядзе канкрэтную работу па аказанню рэальнай дапамогі свайму прадпрыемству ў справе арганізацыі ўчота і адчотнасці, сістэматычна павышае кваліфікацыю работнікаў свайго прадпрыемства, установы і рыхтуе неабходныя новыя ўчотна-эканамічныя кадры. Усё гэта разам узятае і прадстаўляе тую рэальную дапамогу прадпрыемству, якая спрыяе ўзмацненню апаратыўнага кіраўніцтва і ў канчатковым выніку наладжванню ўсёй работы прадпрыемства і выкананню промфінплана. У гэтым выпадку роля ячэйкі ВОСУ, як аднаго з буйнейшых фактараў пасляховай работы прадпрыемства, становіцца зусім яснай і кіраўніцтву і мясцовай грамадскасці.

Адсюль вывад: кожны новаўступіўшы ў члены ВОСУ павінен неадкладна ўцягвацца ў тую або іншую работу ячэйкі.

Як практычна дасягнуць работаздольнасці ячэйкі? Тут могуць быць два выпадкі:

1. Ячэйка нанова арганізуецца.
2. Ячэйка ўжо арганізавана, але не ўсе члены ячэйкі ўцягнуты ў работу.

У першым выпадку зараз-жа пасля афармлення ячэйкі, а ў другім выпадку—на любым этапе работы бюро павінна правесці наступныя мерапрыемствы:

## I. У галіне кадраў:

а) Выявіць патрэбнасць у павышэнні ўчотна-эканамічнай кваліфікацыі сярод рахунковых і планава-эканамічных работнікаў, рабочых актывістаў, ударнікаў і ІТР, а таксама ў галіне падрыхтоўкі новых учотна-эканамічных кадраў.

б) На аснове праведзенага ўчота саставіць план арганізацыі гурткоў учотнай тэхрапаганды, груп, гурткоў і семінараў па павышэнню кваліфікацыі і г. д., а таксама выдзеліць кантынгент пасылаемых у пастаянную вучэбную сець ВОСУ.

в) Увайсці з адпаведнай прапановай к адміністрацыі і заўкому і, пасля ўзгаднення арганізацыі адпаведнай вучэбнай сеці, звярнуцца ў аддзяленне ВОСУ за дапамогай па снабжэнню праграмамі і вучэбнымі дапаможнікамі выкладчыкамі і т. д. Атрымаўшы гэтую дапамогу, зараз-жа прыступіць да арганізацыі

вучобы. Як правіла, заняткі ў гуртках праводзяцца па праграмах ВОСУ, а адчотная дакументацыя і прыклады бяруцца з практыкі прадпрыемства, у якім вядуцца заняткі.

## II. У галіне рацыяналізацыі ўчота:

а) Разбіць усю ячэйку на групы, брыгады і згодна выпрацаванаму плану накіраваць усіх членаў ячэйкі для правядзення абследвання становішча ўчота і адчотнасці на прадпрыемстве, ва ўстанове і т. д.

Заўвага. 1. Для правядзення абследвання неабходна саставіць кароткія планы-праграмы, выкарыстоўваючы для гэтага свае сілы і дапамогу аддзялення ВОСУ.

2. Абследванне трэба весці не толькі шляхам прагляду ўчотных кніг і ўчотных форм. Яно павінна праводзіцца ў першую чаргу на самым прадпрыемстве шляхам вывучэння адлюстравання ва ўчоце ўсяго тэхналагічнага працэса, пачынаючы з рабочага месца ў цэху, у рабочым пакоі, у полі і т. д., ад першай да апошняй аперацыі і канчаючы складам гатовых вырабаў.

3. Абследваннем трэба ахапіць або ўсе прадпрыемства, установу, калгас, соўгас, або, у залежнасці ад наяўнасці сіл іншых прычын, паасобныя яго ўчасткі, з паследуючым ахопам усіх астатніх яго частак.

4. Побач з работай па абследванню вылучаецца група членаў ВОСУ для прапрацоўкі канкрэтных пытанняў па ліквідацыі ўжо вядомых ячэйцы недахопаў у рабоце.

б) Атрыманы пасля правядзення абследвання матэрыял прапрацоўваецца сіламі ячэйкі. Рэзультат прапрацоўкі матэрыялу выяўляе ўсе дэфекты ўчота і дае магчымасць намеціць паасобныя ўчасткі ўчота і адчотнасці, па якіх павінна быць пачата ячэйкай рацыяналізатарская работа.

Гэтыя даныя абследвання побач з дырэктыўнымі ўказаннямі кіруючых арганізацый ВОСУ кладуцца ў аснову плана работы ячэйкі ў галіне рацыяналізатарскай работы.

Такім чынам дасягаецца, што кожны член ВОСУ немінуча становіцца агітатарам за ўцягненне новых членаў у рады таварыства.

Адначасова з правядзеннем усіх указаных вышэй мерапрыемстваў вельмі мэтазгодна вывесіць ад імені ячэйкі на відных мясцах адну або некалькі скрынак для збору рацыяналізатарскіх прапаноў і проста паведамленняў аб недахопах па лініі ўчота.

Апрача абследвання, а ў некаторых выпадках і замест абследвання, для выяўлення недахопаў ва ўчоце, ячэйка можа выкарыстаць і так званы метад анкеты вузкіх месц. Гэты метад заключаецца ў наступным: кожнаму работніку ўчота, кладаўшчыку, брыгадзіру і іншым работнікам, якім прыходзіцца весці

ўчот, раздаюцца лісткі з загалоўкам „анкета вузкіх месц", на якіх прапануецца коратка апісаць недахопы ва ўчоце работніка (запаўняючага анкету) і рабочых месц, з якімі яму прыходзіцца мець справу. Гэтыя анкеты праглядаюцца і на іх аснове састаўляецца план работы па рацыяналізацыі ўчота і адчотнасці.

в) Намечаны такім чынам план абмяркоўваецца на нарадах рахунковых работнікаў, на сходах ІТР, на вытворчых нарадах і становіцца здабыткам і адміністрацыі і шырокай грамадскасці,

г) Для таго, каб забяспечыць сістэматычнае кіраўніцтва, кансультацыю і іншую дапамогу з боку аддзялення БОСУ і сістэматычную сувязь з ім, ячэйка дабіваецца прымацавання да сябе пастаяннага прадстаўніка свайго аддзялення.

д) Для максімальна паспяховай работы ячэйка шырока выкарыстоўвае праз аддзяленне ВОСУ ўсе віды кансультацыі, а таксама вопыт і дасягненні іншых ячэек.

У той-жа час ячэйка зацікаўлена ў тым, каб праз аддзяленне ВОСУ як мага больш пашырыць вопыт і дасягненні сваёй работы.

е) Побач з указанымі вышэй работамі, ячэйка прыступае да стварэння аднаго або некалькіх кантрольных пастоў, вылучае свой актыў у дапамогу мясцоваму камітэту профсаюза для ажыццяўлення нізавога кантроля. Ячэйка вылучае лепшых актывістаў у распараджэнне рай—і абл. ВОСУ. Праз гэтых актывістаў ячэйка сістэматычна накаплівае і найбольш шырока выкарыстоўвае ў сваёй рабоце вопыт іншых арганізацый і ў той-жа час узмацняе і ўмацоўвае ўсю раённую або абласную арганізацыю ВОСУ ў цэлым.

У заключэнне неабходна падкрэсліць, што паспяховае правядзенне ўсіх мерапрыемстваў па разгортванню работы ячэйкі залежыць ад таго, у якой ступені ячэйка, з самага пачатку, сумела мабілізаваць вакол сваёй работы шырокую грамадскасць. Таму з'яўляецца надзвычай важным, каб кіраўніцтва ячэйкі шырока выкарыстала для папулярызацыі работы ячэйкі мясцовы друк, вытворчыя нарады, агульныя сходы рабочых, ІТС і т. д.

## III. Сувязь паміж ячэйкай і аддзяленнем ВОСУ.

Правільна наладжаная сувязь з'яўляецца адной з рашаючых умоў, з аднаго боку нармальнай работы нізавой ячэйкі, з другога,—паспяховага кіраўніцтва ячэйкай з боку аддзялення ВОСУ.

Правільна арганізаваная сувязь павінна задавальняць наступным патрабаванням:

С у в я з ь п а в і н н а б ы ц ь п а с т а я н н а й. Усякі перарыў і нават аслабленне сувязі немінуча прывядзе да аслаблення, а затым і да поўнага спынення кіраўніцтва ячэйкай з боку

аддзялення ВОСУ. З другога боку, гэта зараз-жа адбіваецца на рабоце ячэйкі.

Сувязь павінна быць жывой, г. зн. ні ў якім разе не абмяжоўвацца толькі абменам „паперкамі“, адсылкай адчотаў і не падмяняцца ніякімі іншымі фармальна бюракратычнымі метадамі.

Сувязь павінна быць узаемнай. Гэта значыць, што ячэйка ні ў якім разе не павінна чакаць, пакуль аддзяленне ВОСУ прадпрыме для гэтага тыя або іншыя меры і павінна ўсяляк праяўляць у гэтым напрамку ўласную ініцыятыву.

Для таго, каб наладзіць патрабуемую правільным кіраўніцтвам і прадуктыўнай работай ячэйкі сувязь, трэба:

З боку ячэйкі:

1) дабіцца прымацавання да яе аддзяленнем ВОСУ не менш чым аднаго актывіста таварыства, які трымае яе ў курсе ўсіх асноўных рашэнняў кіраўніцтва ВОСУ і аказвае ёй дапамогу ў выглядзе кансультацыі і т. д.;

2) дакладна ва ўстаноўленыя тэрміны прадстаўляць у аддзяленне ВОСУ ўсе неабходныя весткі адчотнага парадку;

3) дэтальна прапрацоўваць не толькі з актывам, але і з усім саставам членаў ВОСУ атрымліваемыя з аддзяленняў ВОСУ кіруючыя і іншыя матэрыялы і забяспечваць правядзенне іх у жыццё;

4) для ўзаемнай інфармацыі і атрымання неабходнай дапамогі ў рабоце ячэйкі старшыня ячэйкі павінен сістэматычна наведваць аддзяленне ВОСУ;

5) абавязкова прымаць удзел ва ўсіх нарадах і канферэнцыях, склікаемых аддзяленнем ВОСУ;

6) выкарыстаць для ўзмацнення сувязі вылучаемых у распараджэнне аддзялення ВОСУ актывістаў.

З боку аддзялення ВОСУ:

1) да кожнай ячэйкі з моманту яе арганізацыі неадкладна прымацаваць не менш аднаго актывіста, адказваючага за работу ячэйкі і сістэматычна інфармуючага аб ёй аддзяленне ВОСУ;

2) для інфармацыі і інструктавання ўстанавіць каляндарны план выкліку ў аддзяленне ВОСУ старшынь ячэек;

3) устанавіць планавае наведванне ячэек штатнымі і пазаштатнымі кансультантамі і інструктарамі аддзялення ВОСУ;

4) забяспечыць сістэматычнае атрыманне ад ячэек адчотных вестак, грашовых адлічэнняў і т. д.;

5) склікаць нарады і канферэнцыі з мэтай абмену вопытам па прынцыповых пытаннях работы ВОСУ;

6) своечасова снабжаць ячэйкі ўсімі неабходнымі кіруючымі і інструктыўнымі матэрыяламі.

Апрача пералічаных тут форм, практыка работы ячэек і аддзяленняў ВОСУ можа выпрацаваць і рад іншых форм сувязі.

## Б. Учот і адчотнасць у ячэйцы ВОСУ

### Учот членаў у ячэйцы

Індывідуальны ўчот членаў ячэек павінен праводзіцца толькі ў ячэйках ВОСУ. Пры гэтым, у мэтах эканоміі паперы і сродкаў, картачны ўчот членаў адмяняецца і заводзіцца ўчот членаў па форме спіска членаў ячэйкі (форма № 1) на паасобным лісце або ў сшытку.

У спісак заносяцца весткі аб усіх членах ВОСУ, аб'ядваемых ячэйкай, і ў далейшым—аб усіх новаўступаючых членах. У выпадку выбыцця—супроць адпаведнага прозвішча ў графе 10 робіцца адзнака аб прычыне выбыцця.

Усе паследуючыя падлікі наяўнага састава членаў ячэйкі ВОСУ праводзяцца на падставе гэтага спіска.

У графе 5-й прадстаўляецца атрымліваемы аклад або заработак, на падставе якога ў графе 6-й указваецца размер уплачваемых членскіх узносаў за квартал.

*Форма № 1.*

### СПІСАК

### членаў ячэйкі Таварыства соцыялістычнага ўчота

.......................... р-на .......................... вобласці / края

(Такога-то прадпрыемства, установы, калгаса і т. п.)

| №№ п/п | Прозвішча, імя і па бацьку | Партыйнасць | Пасада—спецыяльнасць [1] | Атрымліваемы аклад або заработак | Размер членскага ўзносу | Агульны стаж работы па ўчоту [2] |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | |

[1]) Для членаў ВОСУ, якія не з'яўляюцца па сваёй спецыяльнасці работнікамі ўчота, у гэтай графе ўказваецца іх прафесія, напрыклад: рабочы, калгаснік, ІТР і інш.

[2]) Для членаў ВОСУ, якія не з'яўляюцца па сваёй спецыяльнасці работнікамі ўчота, графа 7-я не запаўняецца.

| Пратакол схода аб прыняцці (№ і дата) | №№ чл. білета і распіска ў атрыманні | Адзнака аб выбыцці з ячэйкі, дата і прычына | Адзнака аб уплаце ўступных узносаў | Сума ўплачаных узносаў за квартал | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I кв. | II кв. | III кв. | IV кв. |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | | |

## Парадак уплаты і ўчота членскіх узносаў у ячэйцы

Афармленне ўплаты ўзносаў робіцца шляхам наклейкі і пагашэння ў членскіх білетах марак адпаведнага кошту, выпускаемых ЦБ ВОСУ.

Побач з наклейкай і пагашэннем марак у членскіх білетах, вядзецца індывідуальны ўчот узносаў у спіску або сшытку (па форме № 1). Уплачаная сума членскіх узносаў запісваецца кожны раз у графе таго квартала, у якім уплачаны ўзносы з паметкай тэрміну ўплаты.

У адносінах членаў ячэйкі, неўплаціўшых узносы на працягу трох месяцаў, перад бюро ячэйкі ставіцца пытанне аб іх выключэнні на агульным сходзе, як парушаючых статут ВОСУ.

Аплата членскіх узносаў праводзіцца шляхам папярэдняга збору грошай ад членаў ячэйкі і прыёму ад іх членскіх білетаў упаўнаважаным або зборшчыкам членскіх узносаў. Атрыманыя сумы зараз-жа запісваюцца ў спіску членаў па форме № 1. На атрыманую суму грошай упаўнаважаны або зборшчык купляе ў сваім раённым аддзяленні неабходную колькасць марак: па членскіх узносах—за вышчытам належачых ячэйцы 25 або 50% сабранай сумы (гэтыя грошы перадаюцца казначэю ячэйкі), а па ўступных узносах—на поўную суму сабраных грошай ад новых членаў ВОСУ. Затым ён наклейвае адпаведныя маркі на членскія білеты і звяртае іх таварышам, уплаціўшым узносы.

Выключэнне з гэтага парадку ўплаты ўзносаў і пагашэння іх маркамі дапускаецца толькі для аддалёных ячэек, якія па свайму месцазнаходжанню не могуць купляць марак у раённым аддзяленні.

У гэтых выключных выпадках—пры пераходзе на марачную сістэму уплаты ўзносаў—першая партыя марак на суму, прыкладна, роўную месячнай суме ўзносаў, адпускаецца ячэйцы адпаведным раённым, абласным, або краявым аддзяленнем ВОСУ пад адчот на тэрмін у 6 месяцаў. На працягу гэтага часу ўказаная сума паступова пагашаецца ячэйкай штомесячна роўнымі долямі. Усе наступныя выдачы марак з аддзялення робяцца за наяўны

разлік. На суму-ж адлічэнняў, якія прылічваюцца ячэйцы, адпаведна прадстаўленаму адчоту, маркі выдаюцца без грошай (калгасным ячэйкам у размеры 50% ячэйкам прадпрыемстваў і ўстаноў—у размеры 25%).

## Фінансавая адчотнасць ячэйкі

Фінансавы ўчот у ячэйцы ажыццяўляецца ў звычайным сшытку—касавай кнізе—з загадзя пранумераванымі старонкамі і ў канцы змацаванай подпісамі членаў бюро ячэйкі і загадчыкам фінсектара райаддзялення і пячаццю апошняга. Усе паступаючыя грашовыя сумы—уступныя і членскія ўзносы і іншыя паступленні—прыходуюцца ў касавай кнізе ў дзень паступлення асобна па кожнаму каштарыснаму артыкулу. Па сканчэнні месяца робіцца падлік паступіўшых узносаў за месяц і звяраецца з учотам атрыманых узносаў па форме № 1. Расход запісваецца на падставе строга афармленых апраўдацельных грашовых дакументаў на ўплату за маркі ўключна.

Па сканчэнні месяца касавы сшытак правяраецца, па ім выводзіцца астатак на наступны месяц, а касавы сшытак падпісваецца старшынёй і казначэем ячэйкі. Усе апраўдацельныя дакументы захоўваюцца за ўвесь бягучы год у касе і, у выпадку перадачы спраў другому казначэю, афармляюцца актам перадачы. Здача дакументаў у архіў робіцца пасля зацверджання гадавога адчота адпаведным аддзяленнем ВОСУ.

Фінансавая адчотнасць ячэйкі перад сваім аддзяленнем прадстаўляецца паквартальна, не пазней 5 числа следуючага за адчотным кварталам месяца, па наступнай форме:

*Форма № 2.*

Фінансавы адчот ячэйкі ВОСУ (такой-то)..................
.............................................................................аддзяленню
за..............................193 г.

| ПРЫХОД | Р. | К. | РАСХОД | Р. | К. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Астатак сродкаў на 1 Паступіла за..........м-цы: | | | 1. Уплачана за маркі уступных узносаў . . . | | |
| 2. Уступных узносаў . . | | | 2. Уплачана за маркі членскіх узносаў . . . . | | |
| 3. Членскіх узносаў . . | | | 3. Набыта літаратуры і дапаможнікаў . . . . | | |
| 4. Іншыя паступленні, а іменна: | | | 4. Іншыя расходы, а іменна: | | |
| а).................... | | | а).................... | | |
| б).................... | | | б).................... | | |
| в).................... | | | в).................... | | |
| Ітаго інш. паступ . | | | Ітаго інш. расходаў . | | |
| 1—4. Усяго наяўных сродкаў і паступленняў . | | | 1—4. Усяго расходаў . | | |
| | | | 5. Астатак сродкаў на 1 число..................(м-ца) | | |

## Аператыўная адчотнасць ячэйкі

На бліжэйшы перыяд часу адчотнасць ячэйкі перад сваім аддзяленнем устанаўляецца ў форме штомесячных інфармацыйных данясенняў і квартальных адчотаў.

## Штомесячнае інфармацыйнае данясенне ячэйкі

Штомесячныя інфармацыйныя данясенні з'яўляюцца месячнай аператыўнай адчотнасцю ячэйкі і прадстаўляюцца па прыведзенай ніжэй форме № 3-м.

У цыфравой частцы інфармацыйнае данясенне ячэйкі вельмі сціслае, і, як відаць з формы № 3-м, састаіць усяго толькі з 6 цыфр. З іх даныя па графе 1—2 бяруцца з спіска членаў ячэйкі па форме № 1, па графе 3-й—па вестках касавай кнігі ячэйкі. Асобна ўлічваюцца весткі па графах 4—6. У графе 4-й указваецца колькасць асоб, занятых к канцу месяца ў рознага роду гуртках, семінарах па ўчотнаму тэхмінімуму, створаных арганізацыяй ВОСУ.

*Форма № 3.*

Прадстаўляецца ў райбюро 2-га чысла наступнага месяца.

Інфармацыйнае данясенне ячэйкі ВОСУ ..................

..........................................................................................

за ................................ мес. 193 г.

| Агульная колькасць членаў ВОСУ к канцу адчотнага месяца | Сума членскіх узносаў, якая прылічваецца за папярэдні м-ц | Фактычна ўплачаная сума ўзносаў на працягу адчотнага месяца | Колькі чалавек займаецца ў гуртках, семінарах і т. п. па ўчотнаму тэхмінімуму | Колькі членаў ячэйкі актыўна працавала за адчотны месяц | Агульная колькасць фактычна затрачаных імі гадзін грамадскай работы за адчотны месяц |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | |

Актыўнай грамадскай работай трэба лічыць усю тую работу, якая праводзілася членамі ячэйкі (у тым ліку старшынёй і членамі бюро) па рабоце ў брыгадах, камісіях, у парадку пастаянных нагрузак і па асобных заданнях як самой ячэйкі, так і адпаведнага аддзялення ВОСУ, не лічачы ўдзелу ў агульных сходах як абавязковых для ўсіх членаў ячэйкі. Весткі ў графе 6-й збіраюцца аднпачасова і ў тым-жа парадку, як і па графе 5-й.

Старшыня ячэйкі, будучы зацікаўлен падлічыць і паказаць колькасць актывістаў і затрачаную імі колькасць гадзін, атрымлівае гэтыя весткі ад усіх кіраўнікоў работ і паасобных актывістаў, на аснове чаго робіцца падлік.

Да прадстаўляемага штомесячнага данясення трэба прылажыць найбольш эфектыўныя і важныя рацыяналізатарскія прапановы па ўчоту і адчотнасці, пратаколы сходаў і паседжанняў, прадстаўляючых асаблівую цікавасць для вышэйстаячай арганізацыі і т. п.

## Квартальны аператыўны адчот ячэйкі.

Квартальны адчот ячэйкі састаўляецца па прыведзенай ніжэй форме № 3 кв.

Асноўным зместам аператыўных адчотаў ячэйкі як квартальнага, так і месячнага з'яўляецца іх тэкставая частка.

*Форма № 3 кв.*

Прадстаўляецца ў райбюро 5 чысла наступнага месяца пасля сканчэння адчотнага квартала

Інфармацыйны адчот ячэйкі ВОСУ........................................

..................................................................................................

за.............................................квартал 193  г.

**А. Агульныя весткі па ячэйцы**

| Агульная колькасць членаў ВОСУ к канцу адчотнага квартала | Сума членскіх узносаў, якая прылічваецца за папярэдні квартал | Фактычна ўплачаная сума ўзносаў на працягу адчотнага квартала | Колькі чалавек займаецца ў гуртках, семінарах і т. п. па ўчотнаму тэхмінімуму к канцу квартала | Колькасць актыўна працаваўшых членаў ячэйкі за апошні месяц адчотнага кварт. | Агульная колькасць фактычна затрачаных імі гадзін грамадскай работы за апошні м-ц адч. кварт. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | |

### Б. Кароткія адчотныя весткі аб рабоце ячэйкі за мінулы перыяд

Асноўныя праведзеныя работы, найбольш паказальныя рэзультаты работы, прымененыя прадпрыемствам, установай або гаспадаркай, асноўныя рацыяналізатарскія мерапрыемствы ў галіне учота і кантроля і іх практычнае ўнядрэнне, адносіны адміністрацыі да праведзеных работ, умовы работы ячэйкі, прапановы, унасімыя на вырашэнне бюро раённага аддзялення ВОСУ і вышэйстаячых арганізацый таварыства.

---

Тэкставы адчот павінен быць, перш за ўсё, канкрэтным. Раённае, абласное, або краявое аддзяленні, атрымліваючыя сапраўдны адчот аб рабоце ячэйкі, а не пустую адпіску, павінны мець у гэтым адчоце жывую, дакладную і ясную інфармацыю: аб канкрэтных рэзультатах работы ячэйкі, аб пэўных фактах і цыфрах, аб ацэнцы работы ячэйкі, аб умовах і абстаноўцы яе работы і тых мерапрыемствах і прапановах, якія высоўвае ячэйка на бліжэйшы адрэзак часу.

Адчот ячэйкі павінен далей даваць самае важнае аб рабоце ячэйкі. Не аб усім панямногу, а аб рашаючых і вузлавых пытаннях, аб найбольш важным, што на сёння рашае поспех на фронце барацьбы за социялістычны, усенародны ўчот і контроль.

Разам з гэтым адчот ячэйкі павінен быць ініцыятыўным. План далейшай работы, намячаемы ў асноўным вышэйстаячымі арганізацыямі ВОСУ, для таго каб ён быў жыццёвым і рэальным, а не габінетнай выдумкай, павінен апірацца на найбольш актуальныя запросы месц, павінен загадзя ўлічваць іх патрэбнасці, высоўваць новыя рашаючыя пытанні, выяўляць хворыя месцы ў галіне ўчета і кантроля ў момант іх паяўлення.

---

## В. Інструкцыя аб арганізацыі работы і абслугоўванні ячэек ВОСУ ў калгасах

### І. Арганізацыя работы ячэек

1. Ячэйкі Ўсесаюзнага таварыства социялістычнага ўчота ў калгасах арганізуюцца ў мэтах уцягнення шырокай калгаснай грамадскасці ў справу барацьбы за ўзорную пастаноўку социялістычнага ўчота і кантроля ў калгасах, у мэтах выкарыстання вопыта нізавых работнікаў для палепшання калгаснага ўчота і падняцця яго на больш высокую ступень, а таксама ў мэтах падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі калгасных рахункаводаў і пашырэння сярод масы калгаснікаў учота—тэхнічных ведаў.

Важнейшая задача ячэек ВОСУ ў калгасах—наблізіць пытанні арганізацыі ўчота да мас калгаснікаў, дабіцца таго, каб учот стаў блізкім і зразумелым радавым калгаснікам, членам рэвізійных камісій, брыгадзірам, кладаўшчыкам, каб яны ў сваёй штодзённай вытворчай рабоце актыўна змагаліся за дакладна і правільна арганізаваны ўчот, як адну з важнейшых умоў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў.

2. У прыватнасці ў задачы ячэек ВОСУ ў калгасах уваходзіць:

а) уцягнуць усю масау калгаснікаў у работу па пастаноўцы ўзорнага ўчота і грамадскага кантроля ў мэтах дасягнення найлепшых рэзультатаў гаспадарчай дзейнасці калгаса (правільнае выкарыстанне рабочай сілы, эканомнае расходванне матэрыялаў і кармоў, беражлівыя адносіны да сельскагаспадарчых машын, уважлівы догляд жывёлы і т. д.);

б) садзейнічаць найлепшай пастаноўцы ўчота і кантроля на ўсіх участках калгаснай вытворчасці шляхам азнаямлення калгаснікаў, працуючых на гэтых участках, з асноўнымі правіламі ўчота, шляхам прапрацоўкі на нарадах з калгаснікамі планаў і адчотаў брыгад і правядзення ў жыццё прапаноў паасобных калгаснікаў, накіраваных на палепшанне ўчота і кантроля;

в) аказваць канкрэтную дапамогу праўленню калгаса ў састаўленні вытворча-фінансавага плана калгаса і планаў-заданняў брыгадам;

г) аказваць дапамогу рэвізійнай камісіі калгаса ў ажыццяўленні штодзённага кантроля за пастаноўкай гаспадарчай работы калгаса на ўсіх участках вытворчасці і за правільным адлюстраваннем паказчыкаў гэтай работы ва ўчотных дакументах;

д) аказваць дапамогу брыгадзірам у справе дакладнага ўчота працы калгаснікаў і правільнага налічэння ім працадзён па колькасці і якасці выкананай кожным калгаснікам работы;

е) арганізаваць пры калгасных клубах, хатах-чытальнях, чырвоных кутках спецыяльныя куткі ўчота, на якіх праводзіць абмеркаванне пытанняў учота, чытку артыкулаў па ўчоту, слуханне радыё-перадач, звязаных з учотам і кантролем, і т. п.;

ж) перадаваць вопыт сваёй работы арганізаваным шляхам іншым калгасам раёна, вобласці і Саюза;

з) практычна дапамагаць блізка распалажаным калгасам у іх рабоце па ўчоту;

і) садзейнічаць падняццю кваліфікацыі сваіх членаў шляхам камандыроўкі іх на курсы, шляхам калектыўнай прапрацоўкі лекцый завочнага навучання, выпіскі адпаведнай літаратуры і т. п.

3. У першую чаргу ячэйка ў калгасе павінна арганізаваць:

а) нагляд за своечасовым прадстаўленнем устаноўленай адчотнасці і за правільным адлюстраваннем у ячэйках гаспадарчай дзейнасці калгаса;

б) кантроль за выкананнем планаў адміністратыўна-праўленчаскіх расходаў;

в) разгляд скарг і заяў ад калгаснікаў аб розных недахопах у справе кантроля, учота і адчотнасці.

У буйных калгасах для выканання гэтых задач могуць арганізоўвацца пры праўленні і пры брыгадах спецыяльныя кантрольныя пасты як пастаяннага, так і сезоннага характару.

4. У буйных калгасах ячэйкі арганізуюцца самастойна ў межах аднаго калгаса.

У дробных калгасах ячэйкі ахапляюць 4—5 калгасаў з цэнтрам у адным з калгасаў, распаложаным па магчымасці недалёка ад сельсовета.

5. Ячэйкі ВОСУ ў калгасах ствараюцца аддзяленнямі Усесаюзнага таварыства соцыялістычнага ўчота як па ўласнай ініцыятыве, так і па ініцыятыве органаў Наргасучота, райза, палітаддзелаў МТС, праўленняў і рэвізійных камісій калгасаў.

Для арганізацыі ячэйкі група ініцыятараў праводзіць растлумачальную работу сярод калгаснікаў аб задачах ячэйкі, склікае шырокую нараду актыва, на якой прапрацоўвае палажэнне аб ячэйцы і даную інструкцыю, выносіць пастанову аб утварэнні ячэйкі, намячае асноўныя пытанні яе работы і праводзіць запіс у члены таварыства.

6. Ячэйка ВОСУ ў калгасе працуе пад кіраўніцтвам райаддзялення ВОСУ на аснове плана работ, састаўленага ячэйкай і ўзгодненага з райаддзяленнем.

Аб ходзе сваіх работ калгасная ячэйка перыядычна адчытваецца перад райаддзяленнем ВОСУ.

7. Ячэйка ў калгасе працуе пад агульным наглядам і кантролем рэвізійных камісій калгасаў.

Ячэйка ажыццяўляе сваю работу шляхам прыцягнення да яе шырокай калгаснай грамадскасці. Яна ставіць асноўныя пытанні сваёй работы на абгаварэнне агульных сходаў праўлення і рэвізійных камісій і на вытворчых нарадах брыгад.

## II. Куставыя аб'яднанні

8. Для больш чоткай арганізацыі работы калгасных ячэек для пастаяннай сувязі з ячэйкамі і штодзеннай дапамогі ў іх рабоце раённае аддзяленне ВОСУ арганізуе ў калгасах кустовую сець пазаштатных грамадскіх інструктароў.

9. Пазаштатны куставы грамадскі інструктар прыцягваецца з ліку лепшых калгасных рахункаводаў і абслугоўвае інструктажам без адрыву ад работы ў сваім калгасе ад 5 да 10 блізка распаложаных калгасаў свайго раёна.

10. Пазаштатныя інструктары з'яўляюцца ўпаўнаважанымі раённага аддзялення ВОСУ па свайму кусту і выконваюць яго даручэнні ў адносінах да калгасаў свайго куста.

Як члены таварыства куставыя інструктары выконваюць работу без аплаты, на грамадскіх асновах.

За работу, забяспечваючую добрую пастаноўку справы ў абслугоўваемых імі ячэйках грамадскія куставыя інструктары могуць быць прэміраваны за кошт асобага фонда, ствараемага для гэтай мэты пры аддзяленнях ВОСУ.

Размер прэмій і паказчыкі работы, за выкананне якіх назначаюцца прэміі, устанаўляюцца асобым палажэннем аб фондах.

11. Асноўны метад работы куставога інструктара—выезды ў больш слабыя і адсталыя па пастаноўцы ўчота калгасы для непасрэднай ім дапамогі і перыядычнае скліканне для калектыўнага інструктажа рахункаводаў калгасаў куста.

## III. Абслугоўванне калгасаў з боку райаддзяленняў

12. Апіраючыся на куставую сець пазаштатных грамадскіх інструктароў і сваіх актывістаў, раённыя аддзяленні ВОСУ разгортваюць работу па аказанню дапамогі калгасам.

Для аказання дапамогі калгасам раённыя аддзяленні:

а) кіруюць работай пазаштатных інструктароў шляхам выездаў сваіх спецыялістаў у кусты, а таксама шляхам арганізацыі раённых і міжраённых нарад, злётаў, канферэнцый, семінараў і т. п.;

б) прымаюць удзел у правядзенні куставых нарад з рахунковымі работнікамі калгасаў, прымацоўваюць да паасобных кустоў рахунковых работнікаў раённых шэфскіх арганізацый;

в) кіруюць работай ячэек ВОСУ пры гарадскіх арганізацыях, шэфствуючых над падшэфнымі калгасамі, арганізуюць выезды гарадскіх работнікаў учота ў калгасы па наладжванню ўчота па асноўных сельскагаспадарчых кампаніях;

г) аказваюць дапамогу прыгарадным калгасам шляхам прымацавання да іх актывістаў сельскагаспадарчага сектара райаддзялення;

д) кансультыруюць усіх рахунковых работнікаў, выязджаючых з раёна ў калгасы для наладжвання ўчота;

е) арганізуюць вусныя і пісьмовыя кансультацыі пры райаддзяленні ВОСУ рахунковых работнікаў калгасаў, брыгадзіраў і іншых работнікаў, звязаных з учотам; звязваюцца ў правядзенні гэтай работы з цэнтральнай кансультацыяй пры журнале „Учет в Соцземледелии“;

ж) арганізуюць куткі ўчота як у раённым, так і ў куставым цэнтры;

з) арганізуюць падпіску на журнал „Учет в Соцземледелии“ рахунковых работнікаў калгасаў і калгаснікаў;

і) распрацоўваюць памяткі і дапаможнікі па пытаннях калгаснага ўчота і рассылаюць па ячэйках ВОСУ праз куставых упаўнаважаных;

к) праводзяць гутаркі па радыё;

л) арганізуюць раённыя і куставыя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы калгасных рахункаводаў і іншых калгасных работнікаў, звязаных з учотам.

13. У мэтах устанаўлення найбольш цеснай сувязі з праўленнямі калгасаў і практычнага іх абслугоўвання раённыя аддзяленні ўцягваюць калгасы ў састаў таварыства ў якасці юрыдычных членаў. Работа з юрыдычнымі членамі праводзіцца на аснове спецыяльнага плана работы з імі, які састаўляецца раённым аддзяленнем, выходзячы з патрэбнасцей і запросаў калгасаў, якія састаяць юрыдычнымі членамі раённага аддзялення ВОСУ.

Для калгасаў, якія састаяць юрыдычнымі членамі раённага аддзялення ВОСУ, устанаўляюцца штомесячныя членскія ўзносы ў размеры ад 5 да 25 рублёў і адначасовы ўступны ўзнос у тым-жа размеры.

---

## ПАСТАНОВА

### Цэнтральнага Бюро Ўсесаюзнага Таварыства Соцыялістычнага Ўчота (ВОСУ) пры ВЦСПС аб парадку і размерах адлічэнняў ад уступных і членскіх узносаў і іншых паступленняў у сістэме ВОСУ ад 20 снежня 1933 г., дапоўненая і змененая пастановай ЦБ ад 4 ліпеня 1934 г.

Устанавіць наступны парадак і размеры адлічэнняў ад членскіх і ўступных узносаў ніжэйстаячымі звеннямі на арганізацыю работы вышэйстаячых звенняў ВОСУ.

§ 1. Для паспяховага ажыццяўлення задач ВОСУ стварыць у ячэйках ВОСУ за лік розных паступленняў матэрыяльную базу на правядзенне, галоўным чынам, арганізацыйна-масавай работы (арганізацыя бібліятэк, чыталень, лекцый, экскурсій, выставак і т. д.). З гэтай мэтай ячэйкі пры прадпрыемствах, установах і інш. астаўляюць у сябе 25%, а ў калгасах—50% ад усіх атрымліваемых членскіх узносаў. Астатняя сума (75% і 50%) членскіх узносаў пералічваецца ячэйкамі вышэйстаячым арганізацыям ВОСУ па падпарадкаванасці.

§ 2. Райаддзяленні па сваёй непасрэднай падпарадкаванасці вышэйстаячым аддзяленням (рэспубліканскім, краявым або абласным, або аўтаномным абласцям і рэспублікам) адлічваюць 30% ад усіх атрымліваемых імі сум членскіх узносаў ад ячэек.

§ 3. Аўтаномныя вобласці і рэспублікі, уваходзячыя ў састаў краёў і ССР, адлічваюць 15% ад усіх атрыманых імі членскіх узносаў непасрэдна ЦБ ВОСУ і 15%—краявым або рэспубліканскім аддзяленням ВОСУ, у састаў якіх яны ўваходзяць.

§ 4. Рэспубліканскія, абласныя (краявыя) аддзяленні ВОСУ пераводзяць ЦБ ВОСУ 30% ад усіх сум членскіх узносаў, атрымліваемых імі ад непасрэдна падпарадкаваных ім ячэек і райаддзяленняў.

*Заўвага.* Атрымліваемыя, згодна § 3 данай пастановы, 15% ад аўтаномных абласцей і рэспублік астаюцца поўнасцю ў распараджэнні рэспубліканскіх і краявых аддзяленняў ВОСУ.

§ 5. Да распрацоўкі асобых палажэнняў аб аддзяленнях ВОСУ саюзных рэспублік—УССР, ЗСФСР і Казакскай ССР—і належнай пастаноўкі работы даных аддзяленняў па кіраўніцтву аддзяленнямі ВОСУ абласцей і рэспублік, уваходзячых у састаў гэтых саюзных рэспублік, устанавіць:

а) з моманту арганізацыі рэспубліканскага аддзялення ВОСУ ў Кіеве ўсе абласныя аддзяленні ВОСУ УССР адлічваюць апошняму 20% ад усіх атрымліваемых імі членскіх узносаў і 20% пераводзяць непасрэдна ЦБ ВОСУ;

б) рэспубліканскае аддзяленне ВОСУ пры совеце профсаюзаў Казакскай ССР, якое вядзе ў цяперашні час работу, галоўным чынам, па Алма-Ацінскай вобласці, вядзе сваю работу на базе адлічэнняў ад членскіх узносаў, атрымліваемых па Алма-Ацінскай вобласці;

в) з прычыны адсутнасці аддзяленняў ВОСУ пры совеце профсаюзаў ЗСФСР,—аддзяленне ВОСУ пры советах профсаюзаў Закаўказскіх рэспублік (Грузія, Арменія і Азербайджан), пераводзяць адлічэнні ад членскіх узносаў, згодна § 4 данай пастановы, у ЦБ ВОСУ непасрэдна.

*Заўвага.* Парадак і размеры адлічэнняў абласнымі і рэспубліканскімі аддзяленнямі ВОСУ, уваходзячых у састаў гэтых трох рэспублік, канчаткова будуць устаноўлены дадаткова пры зацверджанні аб іх палажэння.

§ 6. Адлічэнні ад членскіх узносаў юрыдычных членаў робяцца ў размеры 10% вышэйстаячым аддзяленням ВОСУ па падпарадкаванасці і 10%—ЦБ ВОСУ. Астатнія 80% членскіх узносаў ад юрыдычных членаў астаюцца ў адпаведных арганізацыях ВОСУ па прыналежнасці.

*Заўвага.* Абласныя (краявыя) і рэспубліканскія аддзяленні, падпарадкаваныя непасрэдна ЦБ ВОСУ, адлічваюць яму 20% ад членскіх узносаў юрыдычных членаў.

§ 7. Уступныя ўзносы фізічных членаў поўнасцю, а юрыдычных членаў у размеры 20% пераводзяцца ЦБ ВОСУ. Астатнія 80% ад уступных узносаў юрыдычных членаў астаюцца ў адпаведных арганізацыях ВОСУ—па прыналежнасці.

§ 8. Устанавіць, у адпаведнасці са статутам ВОСУ, наступныя размеры членскіх і ўступных узносаў для фізічных і юрыдычных членаў ВОСУ:

1) Штомесячны членскі ўзнос для асоб (фізічных членаў), атрымліваючых зарплату:

| | | |
|---|---|---|
| да 150 | руб. у месяц | 15 кап., |
| „ 250 | „ „ „ | 30 „ |
| „ 350 | „ „ „ | 50 „ |
| звыш 350 | „ „ „ | 75 „ |

Для калгаснікаў 25 кап. і для вучняў—15 кап.

2) Штомесячны членскі ўзнос для юрыдычных членаў:

*а*) ад 50 да 200 руб.—для прымаемых ЦБ ВОСУ,

*б*) ад 25 да 100 руб.—для прымаемых рэспубліканскімі, краявымі і абласнымі бюро ВОСУ,

*в*) ад 5 да 25 руб.—для прымаемых бюро ВОСУ аўтаномных абласцей і райаддзяленняў.

*Заўвага 1.* Указаныя ў п. 2 § 8 размеры ўзносаў устанаўляюцца прыстасоўна да раёна абслугоўвання юрыдычных членаў арганізацыямі ВОСУ. Як правіла, ЦБ ВОСУ прымае і абслугоўвае арганізацыі і ўстановы ўсесаюзнага значэння, абласныя і раённыя бюро ВОСУ прымаюць і абслугоўваюць прадпрыемствы і ўстановы адпаведна абласнога і раённага значэння.

У тых выпадках, калі райаддзяленні прымаюць у юрыдычныя члены прадпрыемствы і ўстановы саюзнага або абласнога значэння, распаложаныя ў раёне дзейнасці аддзялення,—яны ўстанаўляюць размер узносаў у межах, указаных у пп. *а* і *б* § 8. Абласныя аддзяленні ў адносінах прымаемых імі ў юрыдычныя члены прадпрыемстваў і ўстаноў саюзнага значэння ўстанаўляюць для іх адпаведныя стаўкі, указаныя ў п. *а* § 8.

*Заўвага 2.* Дакладны размер членскіх узносаў вызначаецца пастановай адпаведнага бюро ВОСУ ў кожным канкрэтным выпадку, у залежнасці ад структуры і гаспадарчай дзейнасці прымаемага ў юрыдычнае членства гаспадарчага органа (аб'яднанне, трэст, прадпрыемства, соўгас і т. п.), аб'ёма прымаемых бюро на сябе абавязацельстваў у адносінах да данага юрыдычнага члена, але не звыш указанага гранічнага размера, прадугледжанага данай пастановай.

*Заўвага 3.* Для прымаемых у юрыдычнае членства калгасаў і сельскагаспадарчых комун усімі аддзяленнямі ВОСУ размер месячных членскіх узносаў не можа быць установлен вышэй 25 руб., пры гэтым даны размер штомесячных членскіх узносаў (ад 5 руб. да 25 руб.) устанаўляецца ў залежнасці ад указаных у заўвазе 2 умоў, а таксама тэрытарыяльнай аддаленасці прымаемага ў юрыдычныя члены калгаса або сельскагаспадарчай комуны ад аддзялення ВОСУ.

3) Уступныя ўзносы для фізічных і юрыдычных членаў устанаўляюцца ў размеры месячнага членскага ўзноса.

§ 9. Усе аддзяленні ВОСУ адлічваюць ад сваіх іншых паступленняў, апрача курсавых мерапрыемстваў, адлічэнні, па якіх вызначаюцца палажэннем аб Вучэбным Учотна-Эканамічнам Камбінаце, 5% ЦБ ВОСУ на арганізацыю і правядзенне навукова-метадычнай работы і 10% свайму вышэйстаячаму аддзяленню па падпарадкаванасці на арганізацыйна-масавую і навукова-метадычную работу.

*Заўвага.* Абласныя, краявыя і рэспубліканскія аддзяленні, падпарадкаваныя непасрэдна ЦБ ВОСУ, адлічваюць апошняму на ўказаныя вышэй мэты ад усіх сваіх іншых паступленняў 10%.

§ 10. Уступныя ўзносы, узносы ад фізічных членаў, членскія ўступныя ўзносы ад юрыдычных членаў, а таксама адлічэнні ад іншых паступленняў ва ўказаных у §§ 6 і 7 размерах пераводзяцца ЦБ ВОСУ праз адпаведныя арганізацыі ВОСУ.

§ 11. Даная пастанова кладзецца ў аснову для разлікаў пры састаўленні фінансавых планаў на 1935 год і ўводзіцца ў жыццё з 1/I-35 г.

---

Рэдкалегія: *Арцямкоў*, *Голант*, *Магідаў*

Адказны рэдактар *В. Магідаў*.

Галоўлітбел № 2816. Тыраж 400 экз. 3½ арк. Заказ № 463.

Здано у друк 7/II-1935 г. Падпісано да друку 20/II-1935 г.

Друкарня Беларускай Акадэміі Навук. Менск, Няміга 7.